"Царква", № 1 (52), 2007

## "Надзея на еднасьць у Еўропе" – экуменічная сустрэча ў Менску

***20 студзеня 2007 году падчас Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў у менскім касьцёле сьвятых Сымона і Алены (Чырвоны касьцёл) адбылася экуменічная сустрэча, падрыхтаваная Радай па справах экуменізму пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі.***

Сярод пачэсных гасьцей у сустрэчы бралі ўдзел: з каталіцкага боку – Апостальскі Адміністратар Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі біскуп Антон Дзям'янка і сакратар Апостальскай нунцыятуры ў Беларусі кс. пралат Ежы Міраслаў Цудны, з праваслаўнага боку – а. Аляксандр Шымбалёў, з пратэстанцкага – лютэранскі пастыр Мікалай Бадрусёў. Мадэратарам сустрэчы выступаў намесьнік старшыні Рады па справах экуменізму пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі кс. канонік Кшыштаф Вітвіцкі.

Менскае спатканьне было падрыхтоўкай хрысьціянаў Беларусі да міжканфесійнай Сустрэчы ў Вітэнбергу (15-18 лютага 2007 г.), задуманай як этап на шляху да III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі ў горадзе Сібію (Румынія), што адбудзецца 4-9 верасьня 2007 году, тэмай якой будзе "Сьвятло Хрыста прасьвятляе ўсіх. Надзея на абнаўленьне і еднасьць у Еўропе".

Менская сустрэча складалася з дзьвюх частак. Падчас першае – тэарэтычнае – часткі гучалі даклады прадстаўнікоў розных хрысьціянскіх канфесіяў, у якіх яны гаварылі пра выклікі сучаснага экуменічнага руху. У другой – малітоўнай – частцы мела месца сумесная для ўсіх удзельнікаў спатканьня Літургія Слова, якую ўзначаліў Уладыка Антон Дзям'янка.

На пачатку тэарэтычнай часткі Сустрэчы, пасьля цудоўнага сьпеву гурту "Кадаш" (Полацак–Расоны), Біскуп Антон прыгадаў выказваньне Папы Бенядыкта XVI, што прыярытэтам яго служэньня зьяўляецца аднаўленьне поўнай і бачнай еднасьці Царквы. Сьцьвердзіўшы, што экуменічныя памкненьні павінны быць падмацаваныя сьвятасьцю ўласнага жыцьця, Уладыка асаблівую ўвагу зьвярнуў на неабходнасьць дабрачыннага служэньня хрысьціянаў і сьведчаньня хрысьціянскіх сем'яў, якія зьяўляюцца своеасаблівай лабараторыяй хрысьціянскай еднасьці.

Тэмай выступу пастыра Мікалая Бадрусева, прадстаўніка беларускіх лютэранаў, быў заклік да еднасьці ўсіх хрысьціянаў, бо, цытуючы псалмасьпеўцу, " гэта добра і прыемна, калі браты жывуць разам". Таму прамоўца заклікаў вернікаў да жыцьця ў згодзе й любові незалежна ад веравызнаньня .

Даклад дэкана Ўсходняга дэканату БГКЦ імя сьвятамучаніка Язафата, зьверхніка полацкага грэка-каталіцкага манастыра сьв. Параскевы Полацкай ераманаха Лявонція (Тумоўскага) быў прысьвечаны аналізу сучаснага стану хрысьціянства і экуменічных дзеяньняў у прыватнасьці. Толькі жывое сьведчаньне пра Хрыста кожнай хрысьціянскай супольнасьцю ўзмацняе "надзею на абнаўленьне і еднасьць у Еўропе". *(Тэкст дакладу ерам. Лявонція Тумоўскага "Царква Хрыстовая ў Беларусі. На шляху да абнаўленьня і Еднасьці" можна паглядзець тут).*

Трэці дакладчык, прадстаўнік праваслаўнага боку Мікалай Матрунчык, дырэктар Міжцаркоўнай місіі, распавёў пра экуменічна-сацыяльную дзейнасьць Беларускай Праваслаўнай Царквы, а супрацоўніца гэтай місіі Анастасія Крывіцкая пазнаёміла прысутных з планамі будучай працы, у прыватнасьці – сумеснай дапамогі хворым на СНІД.

Падчас Літургіі Слова прадстаўнікамі розных канфесіяў былі прачытаныя тры ўрыўкі з Сьвятога Пісьма, пасьля чаго праваслаўны сьвятар а. Аляксандр Шымбалёў сказаў казаньне.

Пра тэму III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі ў Сібію ("Сьвятло Хрыста прасьвятляе ўсіх. Надзея на абнаўленьне і еднасьць у Еўропе") сымбалічна і вымоўна нагадаў абрад перадачы сьвятла адзін аднаму, пасьля чаго сьвятары розных канфесіяў удзялілі сумеснае блаславеньне.

На заканчэньне сустрэчы біскуп Антон Дзям'янка, айцец Аляксандр Шымбалёў і пастыр Мікалай Бадрусёў выпусьцілі трох галубоў у менскае неба. Прысутныя палічылі сымбалічным, што галубы не разьдзяліліся, а паляцелі ў адзін бок.

**дыякан Яўген Усошын, *г.Менск***

## Братэрскі візіт

# ва Ўкраіну і ў Славакію

***10-17 лютага 2007 году Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек зьдзейсьніў братэрскі працоўны візіт ва Ўкраіну і ў Славакію.***

Своеасаблівай прэлюдыяй гэтага быў візіт пашаны, які Архімандрыт Сяргей склаў 10 лютага грэка - каталіцкаму мітрапаліту Перамышльска - Варшаўскаму Архібіскупу Яну (Мартыняку) у г. Перамышль, што ў Польшчы.

У нядзелю, 11 лютага, ужо ва Ўкраіне Архімандрыт узначаліў Боскую Літургію ва Ўсьпенскім храме Унеўскай Лаўры Студыйскага ўставу. Падчас сьв. Літургіі ён паставіў на чытальніка - сьвечканосца Алеся Шыбеку – семінарыста БГКЦ, выпускніка духоўнай семінарыі ў Аполе (Польшча). Ва Уневе айцец Сяргей сустрэўся з ігуменам Лаўры Бенядыктам ды ігуменам візантыйскага манастыра з Аргентыны айцом Дыега - Данілам .

12 лютага, у сьвята Трох сьвяціцеляў паводле старога стылю, а. Сяргей Гаек удзельнічаў у Боскай Літургіі ў катэдральным храме Мукачыўскай Грэка - Каталіцкай Япархіі (МГКЯ). Падчас той Літургіі Апостальскі Адміністратар Мукачыўскай япархіі Ўладыка Мілан Шашык паставіў Алеся Шыбеку з Беларусі ў іпадыяканы. У той жа дзень айцец Сяргей наведаў яшчэ Епархіяльную семінарыю (прапедэўтычныя курсы) у горадзе Хуст (Закарпацьце).




У аўторак, 13 лютага, Апостальскі Візітатар БГКЦ прыбыў у Івана-Франкоўск, дзе сустрэўся з кіруючым біскупам япархіі Ўладыкам Уладзімірам (Війтышыным) і з біскупам-эмерытам Уладыкам Сафронам (Мудрым). Архімандрыт Сяргей наведаў таксама Івана-Франкоўскую тэалагічную акадэмію і Духоўную семінарыю, дзе сустрэўся з рэктарам Акадэміі протаярэем д-рам Алегам Каськівам ды з семінарыстамі БГКЦ Віталем Быстровым і Сяргеем Леўрдо, якія праходзяць там навучаньне й фармацыю.

У сераду, 14 лютага, архім. Сяргей наведаў Драгобыч і Трускавец, дзе сустрэўся з кіруючым біскупам Самборска-Драгобыцкай япархіі УГКЦ Уладыкам Юльянам (Вараноўскім) і з яго дапаможным біскупам Уладыкам Яраславам (Прырызам), а таксама з канцлерам япархіі мітрафорным протаярэем Тарасам Гарасымчуком і з каардынатарам для ўкраінскіх грэка-католікаў у Італіі а. Аляксандрам Сапункам.

У наступныя дні Архімандрыт Сяргей затрымаўся ў Львове, дзе меў сустрэчы з Архібіскупам Львоўскай Архіяпархіі УГКЦ Уладыкам Ігарам (Возьнякам), з Патрыяршым Экзархам па справах манаства Ўладыкам Глебам (Ланчынам), ды з намесьнікам старшыні Львоўскай Архіепархіяльнай Пастуляцыі па справах беатыфікацыі новых мучанікаў ераманахам Юстынам (Бойкам).

Там жа Айцец Архімандрыт сустрэўся з львоўскімі ігуменамі манахаў-базыльянаў і манахаў-рэдэмптарыстаў, а таксама з ігуменьнямі сёстраў-студытак і сёстраў-рэдэмптарыстак. Апостальскі Візітатар БГКЦ агледзеў таксама новы будынак Львоўскай духоўнай семінарыі (у львоўскім мікрараёне Хутарыўка) і правёў там размовы з віцэ-рэктарам ЛДС айцом д-рам Сьвятаславам Шаўчуком, а таксама з рэктарам Украінскага каталіцкага ўніверсітэту айцом праф. Барысам Гудзяком.

Па дарозе ў Славакію архім. Сяргей яшчэ раз пабываў у Закарпацьці ў Вужгарадзе, дзе ў Вышэйшай духоўнай семінарыі Мукачыўскай ГКЯ сустрэўся з рэктарам семінарыі протаярэем Тарасам Лоўска (Ловска) і з кіраўніком кіеўскай Патрыяршай курыі УГКЦ Уладыкам Дыянісіем (Ляховічам).

У нядзелю, 18 лютага 2007 г., Архімандрыт Сяргей прыбыў у г. Кошыцэ (Славакія), дзе ўдзельнічаў ва ўрачыстасьцях з

нагоды 10-годдзя Апостальскага Экзархату ў Кошыцэ і 15-годдзя біскупскай хіратоніі грэка-каталіцкага Апостальскага Экзарха Ўладыкі Мілана (Хаўтура). Кароткі, але насычаны візіт у Славакію дазволіў Апостальскаму Візітатару БГКЦ сустрэцца яшчэ й з Апостальскім Нунцыем у Славакіі Архі-біскупам Генрыкам Юзафам Навацкім, а таксама з выдатным знаўцам духоўнасьці хрысьціянскага Ўсходу Кардыналам Тамашом Шпідлікам ды з рэктарам *Collegium Orientale* у г.Айхштэт (Нямеччына), дзе навучаецца семінарыст БГКЦ Алесь Аўдзяюк, мітрафорным протаярэем праф. Андрэасам Тырмаерам.

У той жа дзень архім. Сяргей Гаек сустрэўся яшчэ з Апостальскім Экзархам для грэка-католікаў у Чэшскай Рэспубліцы Ўладыкам Уладзіславам (Гучко), а таксама з Япархам Прэшаўскай грэка-каталіцкай япархіі Ўладыкам Янам (Бабякам), з рэктарам Прэшаўскай грэка-каталіцкай семінарыі а. Васілём Корманікам ды з дэканам грэка-каталіцкага багаслоўскага факультэту ў Прэшаве протаярэем праф. Войцехам Богачам.

9 дзён сустрэчаў, размоваў пра формы супрацоўніцтва ды, перш за ўсё, сумеснай малітвы добра паслужылі паглыбленьню братэрскіх сувязяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы з УГКЦ, Грэка-Каталіцкай Царквой у Закарпацьці і ў Славакіі.

***Вячаслаў Гарчакоў***

***На фота:*** *18.02.2007, Кошыцэ (Славакія). Архімандрыт Сяргей Гаек на ўрачыстасьцях з нагоды 10-годдзя Кошыцкага Апостальскага Экзархату ГКЦ і 15-годдзя біскупскай хіратоніі Экзарха Ўладыкі Мілана Хаўтура (на фота зьлева). Справа - Кардынал Тамаш Шпідлік, за ім - мітрафорны протаярэй праф.Андрэас Тырмаер.*

## Рукапакладаньне новых сьвятароў БГКЦ

*Івана-Франкоўск (Украіна), 17.12.2006. Уладыка Сафрон (Мудры) падчас нядзельнай Боскай Літургіі ў царкве Раства Хрыстова* высьвяціў для БГКЦ двух новых прасьвітараў – Андрэя Буйніча (фота 1-4) і Аляксандра Шаўцова (фота 1-3, 7, 8), а таксама дыякана Яўгена Ўсошына (фота 6-8).

Націсніце фота, каб павялічыць

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Слава!

Слава ў нябёсах і на зямлі!
Слава бясконца!
Нас мілатою Сваёй наталі,
Сэрца Гаспадняга сонца.
З цемрадзі роспачнай выведзі нас,
Ойча Адзіны.
Покуль агонь у вачах не пагас,
Дай нам ступіць на сьцяжыны

Тыя, якія вядуць да Цябе На пакаяньне.
Дай нам убачыць, верным мальбе,
Вечнай надзеі сьвітаньне.

## "Чалавечая асоба – сэрца міру"



**"Чалавечая асоба – сэрца міру" – гэткую тэму прапанаваў Папа Бенядыкт XVI у сваім Пасланьні з нагоды сьвяткаваньня 40-га Сусьветнага дня міру, які традыцыйна адзначаецца ў першы дзень новага году. Пасланьне Сьвятога Айца, падрыхтаванае ім сумесна з Папскай Радай "Iustitia et Pax", закранае надзвычай важнае пытаньне: каштоўнасьць чалавечай асобы. Па словах Папы, гэта – стоўп, на якім трымаецца ўся канструкцыя вялікага будынку міру. "Я перакананы,– адзначае на пачатку свайго Пасланьня Бенядыкт XVI,– што, паважаючы асобу, абараняеш справу міру, а ў будаваньні міру закладзены перадумовы для сапраўднага інтэгральнага гуманізму".**

**Пра чалавечую асобу і мір**

Бенядыкт XVI нагадаў, што чалавек створаны на вобраз і падабенства Бога *(Быц 1, 27)*. Менавіта гэты факт зьяўляецца крыніцай і падставай годнасьці чалавека. З гэтага дару Бога вынікае таксама і заданьне для ўсяго чалавецтва: "узрастаць у здольнасьці да любові і садзейнічаць прагрэсу ўсяго сьвету, аднаўляючы яго ў духу справядлівасьці й міру".

Папа падкрэсьліў важнасьць прызнаньня і шанаваньня гэтага натуральнага права, якое зьяўляецца фундаментам для дыялогу паміж вернікамі розных рэлігіяў, а таксама паміж веруючымі і няверуючымі. У асаблівы спосаб Бенядыкт XVI зьвярнуў увагу на тое, што асноўным аргументам для існаваньня "маральнай логікі" ёсьць рацыянальнасьць нашага сьвету: "Мы верым, што ў вытоках знаходзіцца спрадвечнае Слова, Розум, а не Ірацыянальнасьць".

**Пра каштоўнасьць жыцьця і свабоду веравызнаньня**

У Пасланьні гаворыцца, што Царква заўсёды патрабуе пашаны права на жыцьцё і рэлігійную свабоду кожнага чалавека. Асабліва падкрэсьліваецца, што гэтыя правы не знаходзяцца ў сферы заканадаўчай улады чалавека. Для міру неабходна, каб дакладна была акрэсьлена мяжа паміж тым, што зьяўляецца для чалавека даступным, а што не; што чалавек у сістэме каштоўнасьцяў зьмяніць можа, а што не. Далей у Пасланьні пералічана ўсе тыя зьявы, якія супярэчаць жыцьцю і ставяць супраціў устанаўленьню сапраўднага міру. Сярод іх ня толькі ўзброеныя канфлікты, тэрарызм, шматлікія формы прымяненьня сілы, але таксама і ціхія сьмерці ў выніку голаду, аборты, эксперыменты над чалавечымі эмбрыёнамі, эўтаназія...

Адносна права чалавека на свабоднае выяўленьне сваёй веры Папа з сумам канстатуе той факт, што сёньня ў сьвеце хрысьціяне, а таксама пасьлядоўнікі іншых рэлігіяў часта сутыкаюцца з рознымі абмежаваньнямі для публічнага і свабоднага вызнаньня ўласных рэлігійных перакананьняў. У некаторых дзяржавах, адзначае Папа, хрысьціяне нават перасьледуюцца. Існуюць рэжымы, якія маюць канфесійны характар, дзе ўсім грамадзянам накідваюць адзіную рэлігію, а іншыя рэжымы – рэлігійна-абыякавыя – займаюцца сістэмным культурным высьмейваньнем рэлігійных перакананьняў чалавека. Усё гэта парушэньні важных падставовых правоў чалавека, што "ня можа не нараджаць менталітэт і культуру, негатыўныя для справы міру".

**"Экалогія міру" і канцэпцыя чалавека**

Бенядыкт XVI зазначае, што побач з экалогіяй прыроды неабходна зьвярнуць увагу на экалогію, якую можна назваць "чалавечай", і якая, у сваю чаргу, патрабуе "экалогіі сацыяльнай". Чалавечае існаваньне шчыльна зьвязана з сітуацыяй у навакольным асяроддзі і наадварот. Як яскравы прыклад такой сувязі Папа гаворыць пра энэргетычныя пастаўкі: некаторыя краіны моцна ўзбагаціліся, а ў іншых рэгіёнах планеты людзі жывуць вельмі бедна, бо разьвіцьцё іх краінаў заблакаванае падвышэньнем коштаў на энэрганосьбіты.

У гэтым кантэксьце Папа кажа пра неабходнасьць фармаваньня экалогіі чалавека. Гэта мажліва толькі на цьвёрдым груньце здаровай канцэпцыі чалавека, несапсаванай ідэалагічнай і культурнай перадузятасьцю або палітычна-эканамічнымі інтарэсамі. Побач з канцэпцыяй чалавека недапушчальна дазволіць разьвіцца канцэпцыям Бога, якія б несьлі ў сабе непрыманьне і агрэсію да іншых людзей. "Вайна ў імя Божае непрымальная ані ў якім разе!"– падкрэсьлівае Папа. Такога тыпу канцэпцыя ўжо сама ў сабе сталася ідэалогіяй.

Паводле Папы памылковая канцэпцыя чалавека вынікае перш за ўсё з абыякавасьці да таго, што ёсьць сапраўднай прыродай чалавека. Менавіта адмаўленьне асаблівасьці чалавечай прыроды адкрывае шляхі да экстравагантных інтэрпрэтацыяў асноўных чыньнікаў чалавечага быцьця.

**Правы чалавека і міжнароднае гуманітарнае права**

Папа зьвяртае ўвагу, што "сапраўдны і трывалы мір грунтуецца на пашане да правоў чалавека". Але гэтая пашана немагчымая, калі ня будзе яснага ўяўленьня пра чалавека. Чалавечай асобе, сьцьвярджае Папа, уласьцівы "непарушная годнасьць і правы, сапраўдныя заўсёды, паўсюль і для ўсіх". Заданьне міжнародных арганізацыяў – не губляць з вачэй менавіта аснову правоў чалавека. Гэтая аснова – прырода чалавека, якая створана Богам.

У сваім пасланьні Сьвяты Айцец адзначае, што ў апошнія часы неаднаразова было парушана міжнароднае гуманітарнае права, якое датычыць, між іншым, паводзінаў дзяржаваў падчас вайны. Як канкрэтны прыклад Бенядыкт XVI указвае на сітуацыю ў паўднёвым Ліване, дзе абавязак абараняць і дапамагаць бязьвінным ахвярам, не ўцягваць у збройны канфлікт грамадзянскае насельніцтва ў значнай ступені ня быў выкананы. Таксама Папа кажа пра новыя праблемы і выклікі, якія ставіць перад сусьветнай цывілізацыяй пагроза тэрарызму, існаваньне якога патрабуе паглыбленага разважаньня пра этычныя абмежаваньні што да выкарыстаньня наяўных сёньня сродкаў абароны нацыянальнай бясьпекі. Бо ўсё часьцей узброеныя канфлікты не аб'яўляюцца, асабліва, калі іх правакуюць тэрарыстычныя групы, якія вырашылі любымі сродкамі дасягнуць уласных мэтаў. Моцную занепакоенасьць выклікаюць таксама й спробы некаторых дзяржаваў займець ядзерную зброю, што стварае атмасферу няўпэўненасьці і страху ў грамадзтве перад магчымасьцю атамнай катастрофы. Папа настойліва заклікае выкарыстаць усе магчымыя шляхі, каб дабіцца нераспаўсюджваньня, скарачэньня і ліквідацыі ядзернай зброі, якая ставіць на кон лёс чалавецтва.

**Царква ў абароне асобы чалавека**

Напрыканцы свайго Пасланьня Бенядыкт XVI зьвяртаецца да ўсіх хрысьціянаў з заклікам, каб кожны быў "нястомным міратворцам і мужным абаронцам годнасьці чалавечай асобы і яе неад'емных правоў". Ісус адкрыў нам, што "Бог ёсьць любоў" *(1 Ян 4, 8)* і да яе Госпад заклікае кожнага чалавека. У Хрысьце трэба бачыць рацыю быцьця і аснову міру ды іншых вышэй узгаданых вартасьцяў. "Няхай жа Марыя пакажа нам у Сваім Сыне Шлях супакою, няхай прасьвятліць вочы нашыя, каб яны былі здольныя распазнаць Яго Аблічча ў абліччы кожнай асобы",– заканчвае сваё Пасланьне Бенядыкт XVI.

***айцец Андрэй БУЙНІЧ***

## Разам на шляху веры і сьвятасьці

***У суботу, 30 сьнежня 2006 году, грэка-каталіцкую парафію сьвятога Язэпа ў Менску наведаў Апостальскі Адміністратар Менска-Магілёўскай Архідыяцэзіі біскуп Антон Дзям'янка. Архіпастыр Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі адгукнуўся на запрашэньне Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея Гаека (MIC) і параха менскай грэка-каталіцкай парафіі сьвятога Язэпа протапрасьвітара Андрэя Абламейкі, каб разам з каталікамі ўсходняй традыцыі паўдзельнічаць у патранальным сьвяце іх парафіі.***

Паколькі ў гэтай менскай парафіі пакуль няма сваёй сьвятыні, урачыстасьць адбылася ў рыма-каталіцкім касьцёле сьв. Яна Хрысьціцеля ў Серабранцы, якім апякуюцца айцы салезіяне і ў якім яны гасьцінна прымаюць грэка-каталіцкую супольнасьць.

Боскую Літургію ва ўсходнім абрадзе ўзначальвалі архімандрыт Сяргей і біскуп Антон Дзям'янка. Разам з імі саслужылі

15 сьвятароў усходняга й лацінскага абраду (сярод іх былі і два новавысьвячаныя грэка-каталіцкія сьвятары а. Аляксандр Шаўцоў і а. Андрэй Буйніч). У кароткім казаньні Архімандрыт гаварыў пра сьвятога Язэпа, Абраньніка Багародзіцы (які ў візантыйскім літургічным календары названы Праведным) як пра прыклад веры .

2007 год Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква адзначае як "Год веры". У гэтым годзе спаўняецца 490 гадоў з таго часу, калі ўсходне-славянскі першадрукар Францішак Скарына пачаў друкаваць у Празе Біблію ў перакладзе на старабеларускую мову. Таму ў духу ўдзячнасьці Богу за каштоўны дар Слова Божага на роднай мове вернікі закліканыя ў новым годзе штодзённа чытаць фрагмент Слова Божага і ў сэрцы разважаць над ім. Гэта паспрыяе ўмацаваньню іхняй веры.

Дастойны госьць біскуп Антон Дзям'янка прамовіў да сьвятароў і вернікаў напрыканцы Боскай Літургіі перад архіпастырскім блаславеньнем. У сваім слове ён адзначыў, што Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі абвясьціла 2007 год Годам разважаньня пра пакліканьне да сьвятасьці. Сьвятасьць зьяўляецца плодам жывой веры, а асаблівым месцам, дзе хрысьціяне ўзрастаюць у сьвятасьці, зьяўляецца сям'я, адзначыў Уладыка Антон. Ён таксама нагадаў, што выдатны прыклад сьвятасьці дае ўсім вернікам Сьвятая Сям'я – Ісус, Дзева Марыя і сьвяты Язэп.

Прысутнасьць архіпастыра Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскупа Антона Дзям'янкі на сумесным сьвяткаваньні памяці сьвятога Язэпа была каштоўным выразам духоўнай еднасьці вернікаў абодвух каталіцкіх абрадаў і заахвоціла іх у новым 2007 годзе рупліва крочыць разам шляхам веры і сьвятасьці.

***Прэс-служба сакратарыяту Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі***

## 15-годдзе хору "Бацькаўшчына"

Вядомы гарадзенскі хор "Бацькаўшчына", які актыўна прапагандуе беларускую сьпеўную спадчыну, асабліва духоўную, у студзені 2007 г. адзначыў сваё 15-годдзе. З гэтай датай калектыў павіншавалі сьвятары БГКЦ з Горадні а. Андрэй Крот і а. Аляксандр Шаўцоў. Апошні на працягу некалькіх гадоў сьпяваў у гэтым хоры.

Сваімі сьпевамі хор ня раз упрыгожваў розныя ўрачыстасьці БГКЦ. Вар та пры гэтым адзначыць, што да хору "Бацькаўшчына" належаць вернікі розных канфесіяў і гэта ёсьць выдатнае сумеснае хрысьціянскае сьведчаньне ўзаемнай павагі і любові.

"Многія леты!" і творчых посьпехаў зычым гэтаму выдатнаму калектыву з Горадні.

## Пад апекай Трох сьвяціцеляў

***30 студзеня Ўсходняя Царква ўшаноўвае памяць Трох сьвяціцеляў, трох выдатных сьветачаў старажытнага хрысьціянства: Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Яна Залатавуснага. У Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве дзень іхняга літургічнага ўспаміну яшчэ й сьвята апекуноў парафіі ў Гомелі.***

Гэтая парафія доўгі час пазбаўлена сталага душпастыра, але, не зважаючы на цяжкія акалічнасьці, кожны год адзначае сваё парафіяльнае сьвята.

Сёлета парафіяльная ўрачыстасьць адбылася ў суботу, 27 студзеня. Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е і складаныя дарожныя ўмовы, дзякуючы апецы Бога і Трох сьвятых сьвяціцеляў, сьвятары змаглі пасьпяхова дабрацца ў Гомель і сьвята парафіі адбылося. На ўрачыстасьць прыехалі госьці з усяго Ўсходняга дэканату БГКЦ імя сьв. Язафата, а таксама з Менску.

Сьвяточную Боскую Літургію ўзначаліў дэкан Усходняга дэканату протапрасьвітар а. Лявонці Тумоўскі з Полацку. Разам з ім саслужылі а. Пётр Мартэн, душпастыр гомельскай парафіі, які даязджае ў гэтую парафію з Магілёва, а. Зьміцер Грышан, парах віцебскай парафіі, а таксама нова-прасьвітары БГКЦ а. Аляксандр Шаўцоў і а. Андрэй Буйніч. Выдатнае казаньне сказаў а. Пётр. У ім ён згадаў духоўны досьвед Трох сьвяціцеляў. Урачыстасьць у Гомелі ўпрыгожыў выдатным сьпевам парафіяльны хор з Віцебску.

Пасьля літургічнай часткі гаспадары – гомельскія парафіяне – запрасілі ўсіх гасьцей на братэрскую агапу.



# Вадою і духам

***5 студзеня 2007 году ў грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Чалавекалюбцы, што ў Маладэчна, адбылося асьвячэньне іканастасу. Іконы для іканастасу і алтарную фрэску Ўваскрасеньня Хрыстова напісаў іканапісец з Віцебску сп. Міхась Кускоў. На сьвяце прысутнічалі каталікі абодвух абрадаў, як сярод духавенства, так і сярод вернікаў.***

Боскую Літургію ўзначальваў Архімандрыт Сяргей (Гаек). Яму саслужылі новапрасьвітары а.Андрэй Буйніч і а. Аляксандр Шаўцоў, душпастыр парафіі ў Маладэчна а. Андрэй Абламейка і дыякан Яўген Усошын. Разьдзяліць радасьць гэтага сьвята прыйшлі таксама мясцовы рыма-каталіцкі дэкан Эдмунд Даўгіловіч і манах-капуцын айцец Тадэвуш. Мясцовыя парафіяне сустракалі Архімандрыта Сяргея і паважаных гасьцей калядкамі і тэатралізаванай пастаноўкай. Пасьля багаслужбы адбылося асьвячэньне куцьці. Усе прысутныя змаглі пачаставацца хлебам з мёдам ды традыцыйнай куцьцёй.



Паводле словаў айца А.Абламейкі маладачанская парафія доўга чакала гэтай падзеі: "З іканастасам нават служыцца па-іншаму. Ствараецца ўражаньне большай сакральнасьці. Тое, што тут зьявіўся іканастас, ёсьць сапраўдным пацьверджаньнем, што нашая парафія жыве, у тым ліку і вашымі малітвамі".

Будзем жа разам маліцца за нашыя беларускія грэка-каталіцкія парафіі, за іх разьвіцьцё і за тых, што там служаць.

**Вінцук Цішко** *г.Маладэчна*

***На фота зьлева:*** *Маладэчна, 5.01.2007. Архімандрыт Сяргей (Гаек) падчас урачыстай Боскай Літургіі з нагоды асьвячэньня іканастасу.*

***На фота справа:*** *УВАСКРАСЕНЬНЕ ХРЫСТОВА. Алтарная фрэска ў грэка-каталіцкай капліцы Хрыста Чалавекалюбцы ў Маладэчна (Іканапісец - Міхась Кускоў, 2006 г.).*

# Царква Хрыстовая ў Беларусі.
# На шляху да абнаўленьня і еднасьці

*(Даклад прачытаны на экуменічнай сустрэчы ў Менску 20 студзеня 2007 г. у рамках падрыхтоўкі хрысьціянаў Беларусі да III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі ў горадзе Сібію (4-9 верасьня 2007 году)*

***Для Беларусі нехарактэрна весьці гаворку пра Царкву ўвогуле, найчасьцей гаворыцца пра асобныя веравызнаньні. З іншага боку, адзінства нашага гістарычнага лёсу і нашай веры ў Хрыста, хоць і выяўленае ў розных слоўных формулах і формах царкоўнага жыцьця, заахвочвае да таго, каб паглядзець на хрысьціянства ў Беларусі як на адзінае цэлае – на Царкву Ісуса Хрыста. Хочацца спадзявацца, што мы ўжо настолькі пасталелі, каб усьведамляць нашае супольнае пакліканьне і адказнасьць за лёс Царквы ў нашай краіне, аналізаваць мінулае, думаць пра будучыню, шукаць шляхі для пабудовы жыцьця ў Беларусі на хрысьціянскіх асновах.***

**Памяць і надзея**

Сёньняшні стан хрысьціянства ў Беларусі непасрэдна зьвязаны з нашай папярэдняй гісторыяй. У XX стагоддзі мы перажылі дзьве сусьветныя вайны, дзеі якіх разгортваліся на тэрыторыі нашай краіны. Царкве і народу Беларусі прыйшлося сутыкнуцца з дзьвюма жахлівымі таталітарнымі сістэмамі, фашыстоўскай і камуністычнай, у апошняй з якіх атэізм зьяўляўся ідэалагічным стрыжнем. Фактычна, на працягу цэлага XX стагоддзя ў нашай краіне былі пастаўлены пад удар усе асноўныя чалавечыя каштоўнасьці. Вынікам гэтых падзей сталіся асаблівыя знакі, "стыгматы", якімі былі пазначаны наш народ і Царква. Яны выяўляюцца сёньня ў складаных праблемах і пытаньнях, патрабуюць "лекаваньня", прымірэньня з сваім мінулым і з тымі, што чынілі нам зло, патрабуюць разуменьня ўласных памылак.

Застаецца таксама адкрытым пытаньне нашых гістарычных грахоў і адказнасьці за іх. Адным з "сьмяротных грахоў" нашага грамадзтва ў XX стагоддзі стала масавае адступніцтва ад веры. Гэта выявілася ня толькі ў атэізме, але і ў адмове ад маральных вартасьцяў хрысьціянства. Каштоўнасьць адносінаў да Бога і адносінаў да чалавека сталіся аднолькава пастаўленымі пад сумніў. У сучасным беларускім грамадзтве пераважаюць адыход да прыватных справаў, страх і нежаданьне браць на сябе адказнасьць за лёс сваёй Царквы і свайго народу. Зьнешне сітуацыя пачала мяняцца на працягу апошніх 15-20 гадоў, але духовы стан нацыі збольшага застаецца той самы. Не жадаючы ставіць сябе на судзейскае месца, мусім, аднак, задумацца над прычынамі таго, што сталася. "Грахі нашых бацькоў" нельга апраўдаць складанымі абставінамі, бо ў тых самых жыцьцёвых абставінах розныя людзі паводзіліся вельмі па-рознаму. Патрэбна сапраўднае глыбокае навяртаньне нашага грамадзтва, зьмена сьвядомасьці і жыцьця.

Маральным абавязкам Царквы ў гэтай сітуацыі ёсьць ня толькі заклікаць людзей да пакаяньня, але і даваць ім жывы прыклад. Ні для кога не сакрэт, што адказнасьць за мінулыя грахі й цяперашні стан ляжыць таксама і на царкоўнай Супольнасьці, і на паасобных яе членах. Калі б паміж хрысьціянамі не было падзелаў, прычыны якіх большасьць нават ужо не памятае, калі б у абароне хрысьціянскай веры і чалавечага жыцьця мы выступалі супольна, тады, напэўна, нашае сьведчаньне ўспрымалася б па-іншаму. Вельмі часта хрысьціянства застаецца сёньня рэлігійным культам, абмежаваным сьценамі храма або жытла верніка, і мае мінімальны ўплыў на рэшту ягонага жыцьця. А ў горшым выпадку яно пачынае заступаць у новай сістэме ролю старой камуністычнай ідэалогіі. Часта жыцьцё царкоўных супольнасьцяў якасна не адрозьніваецца ад жыцьця іншых грамадзкіх інстытутаў. Таму няма нічога дзіўнага, калі слова хрысьціянскай пропаведзі, не падмацаванае прыкладам жыцьця, застаецца без адказу.

З іншага боку, перад нашымі вачыма стаяць шматлікія прыклады нашых братоў і сёстраў праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў, як нашых суайчыньнікаў, так і прадстаўнікоў іншых народаў, якія ў нядаўнім часе, ва ўмовах войнаў і перасьледаваньняў далі вялікія сьведчаньні веры. Можам успомніць тут новамучанікаў Праваслаўнай Царквы часоў камуністычнай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, рыма-каталіцкіх сьвятароў Антона Ляшчэвіча і Юрыя Кашыру, Экзарха Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Антона Неманцэвіча, іншых каталіцкіх мучанікаў. Таксама можна ўспомніць шматлікіх вернікаў пратэстанцкіх цэркваў, якія ў цяжкія часы панаваньня дзяржаўнага атэізму аддана сьведчылі Хрыста. Памятаючы гэтыя прыклады, мы з надзеяй можам глядзець у будучыню, можам быць гатовымі дапаўняць сьведчаньне веры нашых папярэднікаў, адкрываючы для сябе шлях, на якім будзем здольныя перамагчы ўсе перашкоды.

**Хрысьціянская будучыня Еўропы і еўрапейская будучыня Беларусі**

Сёньня на самых розных узроўнях трывае дыскусія пра месца хрысьціянства ў аб'яднанай Еўропе. Хрысьціянам

даводзіцца сутыкацца з тэндэнцыямі, якія вядуць да забыцьця пра хрысьціянскія карані еўрапейскае цывілізацыі, пра тое, што многія маральныя і культурныя каштоўнасьці былі ўспрынятыя народамі Еўропы ўласна дзякуючы хрысьціянству. У сучаснай Беларусі, здаецца, ніхто ўголас не аспрэчвае важнасьць Царквы для разьвіцьця грамадзтва. Але, калі зазірнуць трохі далей агульных дэкларацыяў, сітуацыя ўжо ня будзе выглядаць так аптымістычна. Доўгія гады панаваньня атэізму як афіцыйнай ідэалогіі стварылі інэртнае і вельмі непадатлівае на зьмены асяроддзе. Абыякавасьць да хрысьціянства, як да самой веры, так і да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў – гэта тое, што зьбліжае сёньня сэкулярызываны Захад і Ўсход, нягледзячы на ўсе адметнасьці паміж імі. Супрацьстаяць гэтай сіле можна толькі дзякуючы супольным намаганьням усіх хрысьціянаў.

У нашым кантэксьце дыскусія пра хрысьціянскую будучыню Еўропы ўскладняецца пытаньнем пра еўрапейскую будучыню Беларусі. Як хрысьціяне, мы верым, што існуе толькі адна дасканалая "форма" пабудовы грамадзкага жыцьця, а менавіта Божае Валадарства. На ягоны прыход мы чакаем, і ўжо зараз стараемся будаваць сваё жыцьцё паводле ягоных законаў. Сярод іншых формаў уласна дэмакратычная дзяржава з ейнай павагай да правоў і свабодаў чалавека найбольш адпавядае хрысьціянскаму бачаньню грамадзкага жыцьця. Таму мы хочам бачыць Беларусь як еўрапейскую краіну і Еўропу, збудаваную на падмурку хрысьціянскіх каштоўнасьцяў.

Адначасова ўжо сёньня мы павінны рыхтавацца адказваць на выклікі, якія паўстаюць перад хрысьціянствам у Заходняй Еўропе і якія вельмі хутка могуць паўстаць перад намі. Досьвед заходнееўрапейскага хрысьціянства тут для нас жыцьцёва неабходны.

**Супольнае сьведчаньне**

Мінулым летам я меў нагоду быць на багаслоўскай канферэнцыі ў Маскве, дзе адзін праваслаўны дакладчык распавядаў пра праваслаўнае сьведчаньне ў постхрысьціянскай Еўропе. Зьмест ягонага выступу зводзіўся да таго, што ў Еўропе не існуе асобнага ад іншых канфесіяў праваслаўнага сьведчаньня, паколькі агностыкі на Захадзе ўспрымаюць усіх хрысьціянаў як адно цэлае. На тле такіх адносінаў было б папросту неразумным, калі б асобныя хрысьціянскія канфесіі настойліва сьцьвярджалі сваю "асаблівую ролю". Такім чынам, сітуацыя, у якой існуе хрысьціянства ў Еўропе, спрыяе зьбліжэньню хрысьціянаў, заахвочвае іх да супольнага сьведчаньня сваёй веры. Прымірэньне і пакаяньне за "гістарычныя грахі", знаёмства з жыцьцём і традыцыямі адзін аднаго, адкрытасьць і жаданьне весьці дыялог – вось рэальны шлях для аднаўленьня адзінства ў Хрысьце. Падобныя працэсы ўжо доўгі час трываюць у Еўропе ў межах экуменічнага руху, рэальна ўплываючы на зьмену адносінаў паміж хрысьціянамі. Гэты рух ёсьць знакам пэўнай сталасьці еўрапейскага хрысьціянства, якая вынікае з адчуваньня супольнай адказнасьці за будучыню як Еўропы, так і хрысьціянства.

Звычайна, што сітуацыя ў Беларусі, якая знаходзіцца на "перакрыжаваньні" Ўсходу і Захаду, шмат у чым адрозьніваецца ад еўрапейскай. Але, калі паглядзім у нашае мінулае, пабачым, што найбольшыя сьведчаньні ў гісторыі Царквы ў Беларусі даваліся людзьмі, здольнымі ўласна да агульнахрысьціянскага сьведчаньня. Сёлета спаўняецца 490 гадоў з моманту выданьня Францішкам Скарынам у Празе Чэскай першай друкаванай беларускай "Бібліі". Да гэтага часу вядуцца спрэчкі, да якой канфесіі належаў Скарына, розныя факты з яго біяграфіі цяжка згаджаюцца адзін з адным. Але гэтыя супярэчнасьці невырашальныя ў сваёй аснове. Скарынаўская Біблія ёсьць агульным скарбам для ўсіх беларусаў, у аднолькавай меры яна належыць і праваслаўным, і каталікам, і пратэстантам, і нават няверуючым. Падобна да іншых найбольшых зьяваў або асобаў хрысьціянства ў Беларусі, дзейнасьць Францішка Скарыны немагчыма акрэсьліць межамі адной канфесіі або гістарычнай эпохі. Гэты прыклад дае нам зразумець, што супольнае сьведчаньне – гэта ня толькі сьведчаньне, якое прыносіцца хрысьціянамі разам, але і такое, якое мае агульнахрысьціянскую вартасьць. Напэўна таму прыярытэтам у жыцьці і дзейнасьці розных Цэркваў у Беларусі павінны быць справы, якія маюць уласна агульнахрысьціянскую вартасьць ды рэальна будуюць еднасьць Царквы. Пры гэтым звычайна ня сьлед забываць, што адначасова з супольным сьведчаньнем усіх хрысьціянаў кожнае з хрысьціянскіх веравызнаньняў павінна ўсьвядоміць уласныя дары і сваё асаблівае пакліканьне ў сучаснай Беларусі. Толькі аўтэнтычнае сьведчаньне пра Хрыста кожнай хрысьціянскай супольнасьцю ўзмацняе "надзею на абнаўленьне і еднасьць у Еўропе".

**Шляхі абнаўленьня**

Каб зразумець, якім чынам мы можам паспрыяць абнаўленьню хрысьціянскага жыцьця ў нашай краіне, варта паглядзець на сусьветны досьвед Царквы, пэўныя супольныя рысы, характэрныя для розных гістарычных сітуацый і асяроддзяў. Гэта датычыць у першую чаргу мінулага XX стагоддзя.

Першай характэрнай рысай хрысьціянства XX стагоддзя зьяўляецца экуменічны рух. У мінулым стагоддзі, магчыма ўпершыню за доўгую гісторыю хрысьціянства, грэх разьдзяленьня Царквы і патрэба еднасьці былі глыбока ўсьвядомленыя ў хрысьціянскай Супольнасьці. На зьмену "сатэрыялагічнаму эксклюзівізму" ва ўлоньні хрысьціянскіх канфесіяў у папярэдніх эпохах прыйшло імкненьне да еднасьці і дыялогу. Вялікі шлях прайшла ў гэтым кірунку і Каталіцкая Царква: пачынаючы ад энцыклікі Папы Пія XI "Mortalium Animos" 1928 году, якая прыпыняла ўдзел каталікоў у экуменічных адносінах, заканчваючы дэкрэтам "*Unitatis Redintegratio*" (1964) Другога Ватыканскага сабору, які, наадварот, заахвочваў усіх каталікоў да актыўнага ўдзелу ў экуменічным руху.

Сёньня можна сустрэцца з самымі рознымі поглядамі і ацэнкамі экуменічнага руху. Для нас важна разумець экуменізм не як новую форму царкоўнай палітыкі, зьменлівай і няпэўнай, але як жыцьцёвую патрэбу хрысьціяніна . Кожны з нас, хто сустракаецца з рознымі хрысьціянскімі супольнасьцямі і іх жыцьцём, лёгка можа пабачыць багацьце Божых дароў, якое ў іх прысутнічае. Характэрна, што вельмі часта гэта тыя дары, якіх моцна не хапае ў нашым жыцьці. Такім чынам, шуканьне поўні жыцьця ў Хрысьце, жаданьне дзяліцца або ўзбагаціцца Божымі дарамі, стаецца праўдзівай мэтай усіх экуменічных адносінаў.

Іншай характэрнай рысай сучаснага хрысьціянства стала пераацэнка ролі сьвецкіх вернікаў. Моцныя сацыяльныя і грамадзкія ўзрушэньні XX стагоддзя фактычна ў цэлым сьвеце выявілі, што Царква для свайго разьвіцьця і існаваньня патрабуе адказнасьці за ейны лёс з боку кожнага хрысьціяніна. Вывучэньне гісторыі Царквы і яе багаслоўскай спадчыны нагадвае пра тое, што кожны хрысьціянін ёсьць паўнацэнным членам Хрыстовага Цела, надзелены неабходнымі для служэньня Царкве дарамі. Праўдзівасьць гэтай багаслоўскай інтуіцыі была моцна засьведчана ў краінах, дзе хрысьціянства ў мінулым стагоддзі было перасьледавана. Уласна сьвецкія вернікі ва ўмовах перасьледаваньня і тэрору, скіраванага ў першую чаргу супраць духавенства, бралі на сябе адказнасьць за захаваньне веры і Царквы. Ведаем таксама, што ім у шматлікіх выпадках належала ініцыятыва адраджэньня царкоўнага жыцьця ў Беларусі ў канцы 80-ых – пачатку 90-ых гадоў мінулага стагоддзя. Сёньня, калі перад Царквой у нашай краіне стаіць заданьне Новай Евангелізацыі, варта задумацца над той роляй, якую павінны адыгрываць у ёй сьвецкія вернікі.

Сьпіс гэтых важных зьяваў сучаснага хрысьціянства можна было б прадоўжыць. Нягледзячы на тое, што падобны досьвед, у большай ці меншай меры, знаёмы для Царквы ў Беларусі, жыцьцёва неабходнай ёсьць патрэба гэты досьвед засвойваць і паглыбляць. Толькі ён можа дапамагчы нам пераадолець духоўны правінцыялізм, стаць царкоўнай Супольнасьцю, здольнай для моцнага і пераконлівага сьведчаньня Хрыста.

**Высновы**

Гісторыя і сучаснасьць Беларусі ставяць перад хрысьціянствам у нашай краіне выклікі, на якія, на нашу думку, ні адно з хрысьціянскіх веравызнанняў ня здольнае адказаць самастойна. Але гэтая нашая слабасьць можа стацца нашай сілай, калі мы здолеем забыцца на старыя непаразуменьні, перамагчы інэртнасьць і недавер, будзем цярпліва і старанна адбудоўваць страчаную еднасьць. Мы маем на шмат больш супольнага, чым таго, што нас разьдзяляе, і гэта добрая падстава для разьвіцьця дыялогу.

Надышоў час нам усьвядоміць супольную адказнасьць за будучыню нашай Бацькаўшчыны і хрысьціянства ў Беларусі ды разам, у малітве і працы, пачаць закладаць асновы для пабудовы будучага жыцьця.

**ераманах Лявонці (Тумоўскі)**

## Праца ў памяць пра айца В . Аношку

***Рэдакцыя газеты "Царква" рада павіншаваць спн. Анастасію Ільіну з грэка-каталіцкай парафіі сьв. братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці, якая ў Варшаўскім унівэрсітэце, сьпецыялізуючыся ў культуралогіі Ўсходняяй Еўропы, 20 сьнежня 2006 году абараніла магістарскую працу па тэме: "З дзеяў Уніяцкай Царквы ў Пінскай дыяцэзіі ў II Рэчы Паспалітай. Дзейнасьць сьвятара Вацлава Аношкі". Праца выканана пад кіраўніцтвам д-ра габ. Лешака Заштаўта, прафесара Варшаўскага ўнівэрсітэту.***

Гісторыю Уніі на Палесьсі А.Ільіна пачала дасьледаваць яшчэ ў час вучобы ў Берасьцейскім унівэрсітэце, і тады яе дыпломная праца на рэспубліканскім конкурсе студэнцкіх навуковых прац была адзначана дыпломам 1-й катэгорыі.

Варта адзначыць, што значная частка яе магістарскай працы прысьвечана дасьледаваньню постаці выдатнага беларускага ўніяцкага душпастыра айца В.Аношкі, які зьяўляўся сябрам Рады Беларускага Экзархату Грэка-Каталіцкай Царквы. Акрамя вельмі важнай працы – запіс успамінаў былых уніятаў,– якую спн. А.Ільіна ажыцьцяўляла сумесна з Рэдакцыяй газеты "Царква" падчас адмысловых эксьпедыцыяў, хочацца адзначыць таксама яе намаганьні для ўстанаўленьня дакладнага месца пахаваньня айца Аношкі (на могілках пад Варшавай). Дзякуючы яе пошукам цяпер беларускія грэка-католікі змогуць ушаноўваць памяць аднаго з тых, хто нястомна служыў справе еднасьці, нёс людзям асьвету, сеяў сярод іх любоў і веру ды закладаў падмуркі сучаснай БГКЦ.

Зычым спн. А.Ільіной новых навуковых посьпехаў і цікавых знаходак.

# "Дапамагчы чалавеку сустрэць Госпада Ісуса Хрыста"

 *Размова ў Рэдакцыі "Царквы" з нававысьвячаным сьвятаром БГКЦ а. Аляксандрам Шаўцовым*

***– Айцец Аляксандр, распавядзіце крыху пра сябе: адкуль паходзіце, якая Ваша адукацыя?***

– Паходжу я з Горадні, дзе нарадзіўся і вырас. Выхоўваўся ў традыцыйнай савецкай, атэістычнай сям'і. Хрысьціянскай традыцыі ў ёй не было. Бацькі мае прыехалі ў Беларусь з Расеі. Бацька працаваў майстрам на "Азоце", маці была звычайная працоўная. Хрысьціўся я ўжо ў сьвядомым узросьце, калі мне было 20 гадоў. Мая сьвецкая сьпецыяльнасьць – фатограф.

***– Як і калі Вы пачалі ў сваім жыцьці задумвацца пра Бога?***

– Маё хрышчэньне было не да канца ўсьвядомленым крокам. Прыняць хрост мне прапанавала жонка. Гэта адбылося ў 1990-ым годзе, у часы, калі ў краіне пачалося хрысьціянскае адраджэньне. Зьвязана гэта было з тым, што мы хацелі пабрацца шлюбам, і жонка настойвала, каб шлюб быў таксама і царкоўны, а без майго хросту зрабіць гэта было немагчыма. Сітуацыя паставіла мяне перад выбарам, прымусіла задумацца пра Бога. І я вырашыў прыняць Хрост.

***– Ці пасьля гэтага Вы з жонкай пачалі хадзіць у царкву?***

– У царкву хадзілі мы зрэдку. Часьцей за ўсё на Пасху, Раство. Гэта было зьвязана з пэўным адмоўным для мяне досьведам, які я зьведаў тады.

З цягам часу я пачаў цікавіцца рознай філасофскай і духоўнай літаратурай, у тым ліку нават эзатэрычнай, ды кнігамі пра магію. Зсваім сябрам дзяцінства (ён тады таксама шукаў Бога) мы шмат дыскутавалі, разважалі пра сэнс жыцьця. Гэта быў яшчэ несьвядомы інтэлектуальны пошук Таго, Хто кіруе нашым жыцьцём. Нягледзячы на тое, што чытаў я тады ўсё запар, без разбору, усё ж, далёка не з усім я згаджаўся, бо было аднекуль традыцыйнае, нейкае ўнутранае разуменьне Царквы, Бога, царкоўнасьці ўвогуле. Паказальна, што яшчэ да майго сапраўднага навяртаньня я паспрабаваў скіраваць на добрую дарогу таксама і свайго брата, заахвочваў, каб і ён шукаў Бога. Дзеля гэтага найперш прапанаваў яму схадзіць у царкву...

Мае пошукі працягваліся б напэўна яшчэ доўга, каб не сапраўдная інтэрвенцыя Бога ў маё жыцьцё. Сталася так, што маё навяртаньне аказалася зьвязаным з сур'ёзным матэрыяльным крызісам у маёй сям'і. Я застаўся зусім бяз грошаў, у вялікіх пазыках. Я быў цалкам разгублены, мне не было ў каго шукаць падтрымкі. Становішча маё было проста жахлівае. Тады мяне добра зразумела жонка, якая проста сказала: "Давай памолімся".

І менавіта тая малітва, простымі, шчырымі словамі, выратавала мяне! Бог прыйшоў да мяне ў асабістай сустрэчы, і ўжо на наступны дзень я ўстаў з пачуцьцём ачышчэньня, з пачуцьцём унутранай чысьціні. Адбылося ачышчэньне майго ўнутранага сьвету, і прыйшло поўнае разуменьне сітуацыі. Гэта была фактычна ўмяшальніцтва Бога ў маё жыцьцё, урок, які стаў добрай навукай для мяне і азначаў, што трэба спадзявацца на Бога, а не на людзей. Той шчыры зварот да Бога быў зьвязаны з маім першым містычным досьведам. Было гэта на пачатку 1998 году.

***– А як жа Вы сталі актыўным вернікам Грэка-Каталіцкай Царквы?***

– Я быў выхаваны ў савецкай школе, дзе перыяд Уніі ў гісторыі Беларусі фактычна не разглядаўся, і таму я нічога пра яе ня ведаў. Калі пачаў шукаць вырашэньня сваёй матэрыяльнай сітуацыі, я таксама пачаў шукаць Праўды, праўдзівай Царквы. Адзін мой сябра, якому я распавёў пра свой містычны досьвед, пра навяртаньне да Бога і пра свае пошукі, прапанаваў мне пайсьці разам з ім у касьцёл. Ён паходзіў з сям'і з каталіцка-праваслаўнымі каранямі і тады таксама толькі навярнуўся да Бога і прыйшоў у Каталіцкую Царкву. У мяне ніколі не было антыпатыі да Каталіцкай Царквы, і я прыняў яго прапанову. Аднак склалася так, што пайсьці ў касьцёл разам з сябрам неяк не атрымалася, і я ўспрыняў гэта як пэўны знак Божы, каб працягваць свае далейшыя духоўныя пошукі.

У час майго крызісу мы з жонкай хадзілі ў праваслаўную царкву, стаялі на доўгіх службах, амаль нічога не разумеючы... Але было жаданьне актыўнага ўдзелу ў Літургіі і іншых багаслужбах, бо душы нашыя былі спраглыя праўды ды Божай любові. Мы шмат маліліся перад іконай Маці Божай. Думаю, што Матачка Божая выратавала нас у той цяжкай жыцьцёвай сітуацыі. Я адчуў асаблівую апеку Яе нада мной, над нашай сям'ёй. Сапраўды, тады гэта быў Провід Божы і заступніцтва Маці Божай!

Але ўвесь час мы адчувалі, што нам чагосьці не хапае. Як неафіту, які шчыра прагнуў Бога, але нічога ня ведае, мне хацелася мець чалавека, з якім я мог бы падзяліцца, каб ён скіраваў мяне на правільны шлях. Я даведаўся, што ў Царкве вернік можа мець духоўніка і падумаў, што і мне трэба яго знайсьці для сабе. Але як і скуль знайсьці гэтага духоўніка, мне было незразумела. Здавалася, што гэта вельмі цяжка і доўга.

І вось аднойчы – быў гэта 1998 год – знаёмая нашай сям'і папрасіла падвезьці яе на машыне да грэка-каталіцкага сьвятара на споведзь. Хоць зналіся мы даўно, аднак на рэлігійныя тэмы размоў з ёй не было. Тады яна мне і прапанавала паразмаўляць пра мае праблемы і перажываньні з гэтым сьвятаром.

Уразіў мяне гэты чалавек – айцец Віктар Данілаў – сваёй унутранай моцай, духам, якія я адразу адчуў... І тут я расказаў яму і пра сваю бяду і навяртаньне (можа, тады і не разумеў, што гэта называецца навяртаньне) – падзяліўся тым, што меў. Ён з зацікаўленьнем выслухаў, час ад часу задаючы пэўныя вельмі дакладныя пытаньні. Прыгадваю, што тады ён нават папрасіў маю знаёмую пачакаць, каб паразмаўляць найперш са мною, і гэта моцна мяне ўразіла. Нарэшце я камусьці цікавы! Сваім позіркам ён быццам бачыў мяне наскрозь, і я адчуў сябе вельмі маленькім і нязначным у параўнаньні да велічы яго духа. Трэба зазначыць, што тая размова была вельмі простай, але якраз значная для мяне, праз тое, што я адчуваў моц ягонага духу. Ужо пасьля іншыя людзі таксама казалі мне, што мелі падобнае адчуваньне, калі сустракаліся з айцом Віктарам упершыню.

***– Які для Вас быў вынік гэтай сустрэчы? Ці Вы адразу ўключыліся ў жыцьцё Грэка-Каталіцкай Царквы, ці мелі яшчэ пэўныя сумнівы?***

– Так, меў, канешне, яшчэ сумнівы. І нават пасьля першай гэтай сустрэчы сказаў сам сабе: ну, не, да гэтага сьвятара я больш не пайду! Меў ён такую моц, што яна мяне нават пужала... Нягледзячы на гэта, адбылася яшчэ адна сустрэча, а затым яшчэ й яшчэ... Урэшце я пачаў прыходзіць да а. Віктара спавядацца і атрымліваць духоўныя парады. Увесь гэты час праз размовы, праз літаратуру, якую даваў айцец Віктар, праз супольнасьць вернікаў, з якімі я пачаў знаёміцца, я усё больш і больш даведваўся пра Беларускую Грэка – Каталіцкую Царкву...

Для мяне заўсёды вельмі важнай была мая ўсходняя Традыцыя. Я больш утульна адчуваў сябе ў ёй. А калі ўрэшце стаў сьвядомым грэка – католікам, то ўсё гэта і збылося: я ўвайшоў у Каталіцкую (Паўсюдную) Царкву і адначасова застаўся верны ўсходняй літургічнай Традыцыі. Я застаўся праваслаўным, маючы на ўвазе візантыйскую Традыцыю, духоўнасьць, абрад...

***– Я зразумеў, што на гэтым Вашым шляху да Бога ўвесь час побач была Вашая жонка Тацяна? А як яна і блізкія паставіліся да таго, што Вы вырашылі далучыцца да Грэка-Каталіцкай Царквы?***

– Вельмі спакойна і нават радасна, бо яна разьдзяляла ўсе мае перажываньні й пошукі. А ў бацькоў, сяброў ды знаёмых нашае навяртаньне наогул выклікала зьдзіўленьне. Маўляў: "Вось, ходзяць некуды маліцца. Навошта?" І ўсё ж, усе заўважылі, што я вярнуўся да нармальнага жыцьця, што да мяне прыйшоў унутраны супакой. У мяне зьявілася рашучасьць выйсьці з сваёй праблемнай сітуацыі, пачаць новае жыцьцё... Тым больш, айцец Віктар падтрымліваў мяне, маўляў, хутчэй закрый гэтую старонку свайго жыцьця і пачынай служыць Царкве. Я аддаў у рукі Госпаду свае фінансавыя справы і чакаў ад Яго дапамогі. І сапраўды, мая сітуацыя цудоўным чынам вырашылася.

Сёньня разам са мной ў нашай Царкве таксама і мой сын, сем'я майго брата, спадзяюся, пакрысе адкрываюцца на Бога і мае бацькі...

– ***Разумею, што айцец Віктар Данілаў аказаў вялікі ўплыў на Ваш далейшы лёс...***

– Так, ён стаў маім настаўнікам, духоўнікам. І я лічу сябе ягоным вучнем. Душпастырская апека, якой агарнуў мяне а.

Віктар на той крытычны момант майго жыцьця, ягоная малітва са мной і нада мной была для мяне вельмі важнай. Паміж намі была моцная духоўная сувязь.

– Я быў пад моцным уражаньнем ад асобы а. Віктара, яго духоўнага жыцьця. У шматлікіх размовах ён шмат распавядаў пра сваё хрысьціянскае жыцьцё, падпольную місіянерскую дзейнасьць у савецкія часы. Для мяне быў важны і цікавы гэты духоўны досьвед а. Віктара Данілава, які пэўны час быў зьвязаны таксама з колам айца Аляксандра Меня. Вялікую цікавасьць выклікалі ў мяне і яго разважаньні на тэму Царквы. А апостальскі дух і апостальская праца а. Віктара проста ўражваюць. І я ведаў, што яго паважалі і праваслаўныя сьвятары на Гарадзеншчыне, таксама як і рыма-каталіцкія.

***– А як і калі ў Вас, ужо тады – чалавека сямейнага, зьявілася жаданьне стаць сьвятаром?***

– Гэткае жаданьне, як, напэўна, і ў шмат каго, зьявілася пасьля навяртаньня, на хвале майго новага жыцьцяў 1998-99 гг. Хоць айцец Віктар кожнага з сваіх вучняў хацеў бачыць як кандыдата на сьвятара, думаю, што мы з ім вельмі разважліва падышлі да таго майго жаданьня. Я з ім дзяліўся сваімі перажываньнямі, а ён імкнуўся зразумець іх, даць мне параду. Вельмі важна было зразумець, ці гэтае маё жаданьне сапраўды ад Бога, ці сапраўды Бог кліча мяне да сьвятарства, ці я сам сабе гэта выдумаў. Лічу, што айцец Віктар дапамог распазнаць мне маё пакліканьне. Канешне, рашэньне гэтае выкрышталёўвалася паволі. Мае блізкія з цягам часу таксама зьмянялі сваё стаўленьне да майго рашэньня стаць сьвятаром... Гэтак распачаўся мой шлях, маё выхаваньне да сьвятарства: ад знаёмства з айцом Віктарам, праз актыўны ўдзел у парафіяльным жыцьці, праз удзел у пілігрымках.

***– Дзе адбывалася Вашая сьвятарская фармацыя?***

– У гэты час я пазнаёміўся з Апостальскім Візітатарам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы архімандрытам Сяргеем (Гаекам), які вырашыў бліжэй прыглядзецца да мяне, ці змагу я вучыцца ў семінарыі, што я за чалавек. Ён прапанаваў мне вучобу на тэалагічным факультэце ў Варшаўскім універсітэце імя кардынала Стэфана Вышынскага. Там я правучыўся год, і пасьля гэтага мяне перавялі адразу на II курс у рыма-каталіцкую Вышэйшую духоўную семінарыю ў Драгічыне (Польшча), дзе я быў адным з першых жанатых семінарыстаў. Гэта быў цікавы, часам няпросты досьвед, прычым ня толькі для мяне. Я вучыўся ў шматкультурным асяроддзі, дзе былі ня толькі палякі, але і беларусы, і ўкраінцы, нават расейцы. На IV курсе мяне перавялі ў Івана-Франкоўскую духоўную акадэмію, дзе я правучыўся 2 гады. Гэты перавод быў зьвязаны з тым, каб я мог атрымаць выхаваньне ва ўсходняй традыцыі.

***– Распавядзіце, калі ласка, трошкі пра свае навуковыя зацікаўленьні.***

– У 2006 годзе я закончыў навучаньне ў духоўнай Акадэміі і абараніў там магістарскую працу па маральнай тэалогіі. Праца мела назву "Этыка сужэнства". Пачынаў яе пісаць яшчэ ў Драгічыне пад кіраўніцтвам прэфекта семінарыі доктара тэалогіі кс. Славаміра Мазура, а закончыў у Івана-Франкоўскай Акадэміі пад кіраўніцтвам доктара Ўладзіміра Шарамета. Для мяне, як сямейнага хрысьціяніна і будучага душпастыра важна і цікава, як Царква глядзіць на сужэнства. У сучасным сужэнстве, якое перажывае пэўны крызіс, цяжка пабачыць разуменьне праўдзівай сужэнскай еднасьці, ёсьць імкненьне зьвесьці ўсе адносіны сужонкаў да звычайнага эгаізму, і як вынік – шматлікія разводы. У правільна зразуметым сужэнстве вельмі добра бачна, як людзі крок за крокам пазбаўляюцца ад эгаізму, вучацца сапраўднай любові і павазе адзін да аднаго, у тым ліку і ў інтымнай сферы. Вось жа заняўся тэмай сужэнства, каб была магчымасьць паглыбіць уласны досьвед і падзяліцца гэтай навукай Царквы з іншымі.

***– Многія праваслаўныя тэолагі з недаверам глядзяць на сам факт існаваньня Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў як да формы еднасьці хрысьціянаў. Ці няма ў гэтым віны саміх усходніх каталікаў ?***

– Магчыма. Думаю, што сказваецца гістарычная памяць. Яны лічаць і заўсёды лічылі, што грэка-каталіцтва – гэта шлях да лацінізацыі праваслаўных, нават, падкрэсьлю, не да акаталічваньня. Мой семінарыйны досьвед у Івана-Франкоўску паказвае, што ёсьць пэўны ўплыў лацінскіх практык на грэка-каталіцтва. Для простага праваслаўнага верніка існаваньне гэтых практык незразумелае.

Хоць, ведаем, што і ў Расеі, і ў Румыні, і ў Грэцыі ў рэальным рэлігійным жыцьці праваслаўных няма нейкай абрадавай аднастайнасьці, музейнай чысьціні. Але, тым ня менш, нягледзячы на розныя ўласныя праблемы, якія перашкаджаюць Царкве, там ёсьць жаданьне захаваць менавіта ўсходнюю чысьціню, і неабходнасьць гэтага асабліва падкрэсьліваецца ў працах такіх выдатных праваслаўных багасловаў заходняй школы, як а. Аляксандр Шмеман, а. Іван Меендорф. З іх

прац бачым, што гэтая задача – захоўваць усходнюю ідэнтычнасьць – стаіць і перад праваслаўнымі. Таму і нам, грэка-каталікам, у гэтым кірунку таксама можна і трэба ісьці. І ў нас тут ёсьць шмат магчымасьцяў. Больш таго: II Ватыканскі Сабор, дакументы Сьвятога Пасаду нават абавязваюць усходніх каталікаў захоўваць і даражыць усходняй літургічнай і духовай Традыцыяй. Варта хоць бы пазнаёміцца з Апостальскім Пасланьнем Папы Яна Паўла II "Сьвятло Ўсходу" (ад 2. 05.1995 году).

Зразумела, што сёньня ў нашай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі шмат цяжкасьцяў, адчуваецца недахоп храмаў, не ва ўсіх капліцах ёсьць іканастасы, што трохі перашкаджае нармальным усходнім практыкам. Тым ня менш, праз адпаведную катэхізацыю сёньня можна больш грунтоўна даносіць да вернікаў сэнс, праўдзівае разуменьне і асаблівасьці нашага ўсходняга багаслужэньня. Мы ж сёньня маем магчымасьць выбіраць лепшае з нашай усходняй традыцыі сярод таго, што было, магчыма, забыта – з улікам ментальнасьці сучаснага чалавека, з улікам нашых рэальных патрэбаў.

Я сёньня перакананы, што Госпад нездарма дапусьціў Берасьцейскую Унію і яе існаваньне праз усе цяжкасьці на працягу некалькіх стагоддзяў. Мы, грэка-католікі, пакліканы, каб сьведчыць еднасьць, і сёньня нам менавіта пра гэта трэба найбольш казаць, каб усе шукалі гэтае еднасьці і любові, да якой паклікаў нас Госпад.

**– *Што, на Вашую думку, зьяўляецца сёньня душпастырскім прыярытэтам?***

– Сучасны чалавек, канешне, найперш патрабуе, каб яго выслухалі і пачулі. І, безумоўна, на гэта трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу ў нашай душпастырскай працы. Я і сам, як я ўжо казаў, пераканаўся ў гэтым на ўласным вопыце. Чалавек жыве ў коле пэўных праблемаў, коле рознай інтэнсіўнай інфармацыі, і ён ня хоча, каб яму штосьці даказвалі і ў чымсьці пераконвалі, але прагне, каб прынялі яго як брата (сястру), далі зразумець, што ён патрэбны. Тут вялікую ролю іграе парафіяльная супольнасьць. Важнасьць супольнасьці заўсёды падкрэсьлівалася ва ўсходнім багаслоўі. Галоўнае ж заданьне – гэта дапамагчы чалавеку сустрэць Госпада Ісуса Хрыста. У Каталіцкай Царкве я знайшоў на гэтай ніве шмат розных душпастырскіх ініцыятываў: сямейныя колы, скаўты, малітоўныя групы. Усё, канешна, у пашане для ўсходняе Традыцыі. А працы вельмі шмат, бо мы хочам дайсьці да тых, хто яшчэ ня мае рэальнага кантакту з Хрыстом і з Царквой.

**– *Дзякую за размову! Якое пажаданьне хацелі б перадаць чытачам?***

– Чытачам газеты хацеў бы пажадаць імкненьня да еднасьці: еднасьці з Богам, еднасьці паміж людзьмі, еднасьці ў сям'і і ў сужэнстве. Мы мусім разам сьведчыць хрысьціянства, несьці любоў і слова Божае іншым ды сьведчыць гэта сваёй верай у нашым грамадзтве.

*Гутарыў Ігар Бараноўскі*

***На фота:*** *Айцец Аляксандр Шаўцоў. Нарадзіўся 27 лютага 1969 г. у Горадні. Дыяканскія сьвячаньні атрымаў 12 чэрвеня 2006 г. Высьвячаны на сьвятара біскупам Сафронам Мудрым 17 сьнежня 2006 г. у Івана-Франкоўску. Жанаты. Мае жонку Тацяну і сына Арсеня, якому 16 гадоў. Магістар багаслоўя.*

## Літургічныя традыцыі Вялікага чацьвяргу

***Як Вялікі пост займае асаблівае месца ў літургічным царкоўным годзе, так і Вялікі чацьвер займае, пэўна, асаблівае месца ў самім посьце, зважаючы на важнасьць і веліч таго, што адбывалася ў гэты дзень у Ерусаліме дзьве тысячы гадоў таму і ў Царкве Хрыстовай сёньня.***

Для ўсіх хрысьціянаў, не зважаючы на іх канфесійную прыналежнасьць, Вялікі чацьвер – гэта ўспамін Тайнай вячэры – Апошняй вячэры Госпада нашага Ісуса Хрыста з апосталамі. Вячэры, на якой была ўстаноўлена Таямніца Прычасьця Цела і Крыві Госпада і якая была фактычна першай Літургіяй, першай Еўхарыстыяй. Да поўні Еўхарыстыі яшчэ неабходна было перажыць цярпеньні і мукі Хрыстовыя Вялікай пятніцы, знаходжаньне ў магіле Вялікай суботы, слаўнае ўваскрасеньне Вялікадня, Узьнясеньне Госпаднае і Зыход Сьвятога Духа. Але сама Тайная Вячэра містычна ўжо ўключала ў сябе тое, што адбылося пасьля яе, яна была праобразам усіх збавенных і важных падзеяў, якія спрычыніліся да нараджэньня Царквы Хрыстовае і Еўхарыстыі ў Ёй, як бачнага элементу сувязі Царквы з Яе Госпадам,

Нявесты з Яе Жаніхом.

У Вялікі чацьвер сьвятая Літургія служыцца ўвечары, па вобразу Тайнае вячэры, і часта яднаецца з вячэрняй. Падчас багаслужэньня сымбалічна ўзгадваюцца ўсе падзеі, якія адбываліся ў той першы Вялікі чацьвер: абмываньне ног апосталаў, пасхальная вячэра, Прычасьце Цела і Крыві, малітва ў Гэтсіманіі, здрада Юды, арышт Ісуса, патройнае адрачэньне Пятра. Царква ў асаблівы спосаб узгадвае і перажывае гэтыя цяжкія падзеі ды скіроўвае наш позірк далей – да сьветлага сьвята Ўваскрасеньня.

З традыцыяў Вялікага чацьвяргу асаблівую ўвагу прыцягваюць два старажытныя абрады: абрад абмываньня ног і абрад прыгатаваньня сьвятога міра, сьпецыяльнага алею з пахошчамі, які ўжываецца ў таямніцы мірапамазаньня. У той час, калі першы абрад – абмываньня ног – могуць праводзіць ня толькі біскупы (хаця і склалася пэўная практыка), другі звычайна зьдзяйсьняе толькі патрыярх лакальнае Царквы, ад якога потым гэтае міра атрымліваюць усе біскупы, а праз іх – для служэньня таямніцаў – усе сьвятары.

Каб глянуць больш уважліва на абрад абмываньня ног, зьвернемся да сьведчаньня Яна Касьяна Рымляніна, які ў 5 стагоддзі апісаў традыцыі палестынскіх манастыроў, адкуль і прынёс правілы манаскага жыцьця на Захад. Ён пісаў, што ў манастырах Палестыны існаваў абрад абмываньня ног па прыкладу, учыненага нашым Госпадам. Абрад той зьдзяйсьнялі простыя манахі, адзін аднаму, і ён не залежаў ад дня й выконваўся даволі часта. Менавіта з такіх першасных традыцыяў з цягам часу і сфараваўся сучасны сымбалічна-рэальны абрад Вялікага чацьвяргу.



У нашыя дні штогод у Ерусаліме, у двары Храму Гроба Гасподняга, учынак Хрыста паўтарае Ерусалімскі Патрыярх; у Рыме, у катэдральным саборы сьв.Яна на Латэране, – Папа Рымскі; у Львове – Вярхоўны Архібіскуп УГКЦ. Таксама шматлікія іншыя патрыярхі й біскупы ўсяго сьвету паўтараюць гэты ўчынак, ідучы за словамі Хрыста: "Дык вось, калі Я, Гасподзь і Настаўнік, абмыў ногі вам, дык і вы павінны абмываць ногі адзін аднаму: бо Я даў вам прыклад, каб і вы рабілі тое самае, што Я зрабіў вам" *(Ян 13:14-15).*

Уласна чын абмываньня ног можа адрозьнівацца ў дробязях у розных мясцовых традыцыях. Каб уявіць сабе, як гэта адбываецца, возьмем за прыклад канкрэтны чын, які зьдзяйсьняецца ва Ўсходняй Калегіі г. Айхштэт, куды ён трапіў з некаторых манастыроў Усходу.

Увечары, звычайна перад сьв. Літургіяй, у трапезным храме, зьбіраецца мясцовая еўхарыстыйная супольнасьць. Рэктар (можа быць біскуп ці парах, калі служыцца на парафіі), як галава гэтай супольнасьці, сымбалізуе Хрыста й сядзіць у цэнтры ў богаслужбовай вопратцы. З кожнага боку сядзяць па 6 "апосталаў", якіх прадстаўляюць вернікі з супольнасьці (калі служыць біскуп – вельмі часта ў якасьці апосталаў бываюць сьвятары). Па правай руцэ таго, хто ўзначальвае чын, сядзіць "Юда", па левай – апошні пры абыходзе падчас абраду абмываньня – "апостал Пётр". Дыякан на амбоне сымбалізуе евангеліста ды чытае адпаведныя ўрыўкі з Евангельляў.

Асноўная частка гэтага абраду – гэта чытаньне Евангельляў "па ролях" ды само абмываньне ног. Пасьля ўступных трапароў, літаніяў, псальмаў 50 і 142, чытаецца першае евангельскае чытаньне, складзенае з розных размоваў Ісуса з вучнямі на падыходзе да Ерусаліму і на пачатку Апошняе вячэры *(Мк 10:32-45, 29-31; Ян 14:2-12 і інш.)*. Дыякан у гэты час чытае словы евангеліста, як напрыклад, "І спытаў Піліп" ці "І сказаў Ісус". А пасьля гэтага словы Хрыста і пытаньні апосталаў чытаюць тыя, хто прадстаўляе іх. Атрымліваецца падабенства рэальнага дыялогу паміж удзельнікамі, якія сядзяць ля стала. У гэтай частцы ўзгадваюцца вельмі важныя словы Ісуса пра тое, што мае адбыцца, пра тых, хто

пакідае ўсё і ідзе за Госпадам, і што іх чакае ў жыцьці вечным. Гэта размова пра Чашу, якую вучні будуць таксама піць, пра здраду аднаго з вучняў, пра распазнаваньне знакаў часу, па якім можна пазнаць дзень Гасподні.

Пасьля ўзгадваньня (што па-літургійнаму называецца "анамнеза") чытаецца другое Евангельле – уласна гісторыя абмываньня ног вучняў *(Ян 13:1-15)*. У гэты час большасьць тэксту чытае дыякан, а сьвятар (ці біскуп) падобна, як Ісус Хрыстос, робіць усё, што чытаецца паводле згаданых урыўкаў з Евангельля: устае, здымае верхнюю вопратку, застаючыся ў белым падрызьніку, падпярэзваецца доўгім рушніком, налівае ваду ў мыйніцу і пачынае па чарзе абмываць ногі тым, хто выступае ў ролі апосталаў, ды абцірае іх рушніком. Робіць гэта, пачынаючы ад Юды, і заканчвае мыць ногі ў апостала Пятра, з якім мае памятную размову пра ягонае нежаданьне, каб Сам Ісус абмываў яму ногі. Гэтая частка сканчваецца важнымі словамі: "Я даў вам прыклад, каб і вы рабілі тое самае, што Я зрабіў вам".

Трэцяе Евангельле – гэта сцэна малітвы ў Аліўным садзе, калі апосталы тройчы засыналі падчас малітвы Ісуса *(Мц 26:36-46)*. Ісус кажа ў гэтым урыўку выразна: "Дух бадзёры, а цела слабое" і "Ойча, калі ня можа абысьці Мяне гэтая чаша, каб Мне ня піць з яе, то няхай будзе воля Твая".

Які ж сэнс мае гэты момант, чаму Царква вынесла яго ў асаблівы абрад? Здавалася б, наш Збавіцель ужо нямала паказаў вялікіх цудаў, шмат растлумачыў прыпавесьцяў, але гэтага было яшчэ мала, апосталы патрабавалі яшчэ й іншага навучаньня праз даволі дзіўны для іх разуменьня ўчынак – абмываньне ног вучняў. Потым, як і з прыпавесьцямі, Хрыстос патлумачыць, што хоча ня толькі навучыць іх пакоры, але й паказаць прыклад сапраўднай пакоры. Паказаць жывы й яскравы прыклад, як Бог і Сын Божы абмывае ногі сваім дзецям, як Творца абмывае ногі свайму стварэньню, як Збаўца ўпакорваецца перад тымі, каго прыйшоў збавіць. Словамі "Як Я зрабіў вам, так і вы павінны рабіць адзін аднаму", Хрыстос заклікае апосталаў насьледаваць Яму, каб так, як Ён упакорыўся перад імі, так і яны ставіліся да братоў, як Ён змыў бруд з іх ног, каб так і яны ў пакоры насілі цяжары адзін аднаго, прабачалі, падтрымлівалі.

Вельмі блізка да гэтага стаяць і шматлікія іншыя словы Ісуса пра ўнутранае ачышчэньне, пра чысьціню думак, пра чысьціню адносінаў. Гэткае разуменьне чысьціні знайшло адлюстраваньне ў народнай назьве гэтага памятнага дня – Чысты чацьвер. У гэты дзень нашыя продкі ачышчаліся ня толькі вонкава – ходзячы ў лазьню, але і ўнутрана – праз споведзь, да якой актыўна ішлі менавіта ў гэты дзень. Айцы Царквы разумелі, што чалавек мусіць прыйсьці да вялікага сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага цалкам чыстым: унутрана і вонкава, целам і духам. Бо гэтае сьвята – Сьвята ўсіх сьвятаў і ўвайсьці да яго трэба падрыхтаваным.

**іпадыякан Алесь Аўдзяюк**

# Пра Папу Пія XII і Халакост – новая інфармацыя

*Напярэдадні Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў (18-25 студзеня ) у шматлікіх краінах сьвету ў Каталіцкай Царкве адзначаецца Дзень дыялогу з юдаізмам. У кантэксьце духоўнага збліжэньня хрысьціянаў і габрэяў Экумэнічная Інфармацыйная Агенцыя (EAI) ды Інтэрнэт - сэрвіс Generation JP2* ***(http://generationjp2.com/pol)*** *распаўсюдзілі ў сеціве цікавы матэрыял пра адносіны Папы Пія XII да габрэяў і Халакосту. Ніжэй прапануем асноўныя часткі гэтага матэрыялу.*

**Папа Пій XII ня быў антысемітам**

Хоць ужо некалькі гадоў працягваецца беатыфікацыйны працэс Папы Пія XII, у пэўных колах не сьціхае дыскусія: ці быў гэты Папа антысемітам, ці ня быў, ці ратаваў габрэяў, ці – наадварот – быў абыякавы да іх зьнішчэньня.

У найноўшым нумары амерыканскага часопісу " *National Review Online*" былы дарадца румынскага дыктатара Чаўшэску, агент румынскай – таемнай міліцыі Сэкурытатэ, генэрал Іён Міхай Пачэпа ( які ў 70- х гадох XX ст. зьбег у ЗША і папрасіў палітычнага прытулку ) прасьвятліў таямніцу "чорнай легенды", якая абвінавачвае Папу Пія XII. Іён Пачэпа інфармуе, што гэта Крэмль і савецкі КГБ сумесна стварылі гэтую легенду, і прызнаецца, што сам удзельнічаў у сфабрыкаваным КГБ падмане стагоддзя. Змрочная, ваенная мінуўшчына Папы Пія XII, які быццам бы халодным вокам глядзеў, як мільёны габрэяў гінуць у газавых камерах,– гэта фальсіфікацыя, зробленая ў 1960- ыя гады на Лубянцы ў Маскве.

**КГБ хацеў дыскрэдытаваць Папу Пія XII**

Генерал Іён Пачэпа інфармуе, што камуністычнаму рэжыму ў СССР вельмі хацелася дыскрэдытаваць памерлага ўжо тады Папу Пія XII, каб паставіць пад сумнеў давер да інстытуцыяў Каталіцкай Царквы. Сьвяты Айцец ужо ня мог сябе бараніць, таму асоба памерлага ў 1958 годзе Папы была тым лягчэйшай мішэньню для камуністаў.

У лютым 1960 г. Мікіта Хрушчоў зацьвердзіў таемны план, мэтай якога быў паступовы падрыў – маральнага аўтарытэту Ватыкану. Савецкая выведка імкнулася паказаць Пія XII як антысеміта, які заахвочваў Гітлера да разьвязваньня Халакосту. Каб дасягнуць мэты, было пастаноўлена між іншым "нязначна зьмяніць" некаторыя арыгінальныя дакументы Ватыкану. Планіроўшчыкамі акцыі былі шэфы савецкага КГБ і Палітбюро КПСС. Адначасова Крэмль падтрымліваў перасьлед Царквы ў іншых краінах камуністычнага блоку. КГБ ня меў адпаведных дакумэнтаў, на якіх можна было б абаперці свой план. Савецкая выведка ня мела таксама доступу да ватыканскіх архіваў і кантактаў з Ватыканам у адрозьненьне ад Румыніі. Таму расейцы пастанавілі заангажаваць румынскую выведку *DIE*, у тым ліку самога Пачэпу, які быў з 1959 году рэзыдэнтам *DIE* у Федэральнай Рэспубліцы Нямеччына і займаўся фальшаваньнем дакументаў.

Аперацыя супраць Пія XII называлася "*SEAT-12*", а генерал Іён Пачэпа быў адказны за рэалізацыю "румынскага этапу". Гэта была шырока задуманая акцыя дэзынфармацыі. Ён фальшыва паінфармаваў Апостальскую Сталіцу, што Румынія зацікаўленая ва ўзнаўленьні дыпламатычных адносінаў з Ватыканам пры ўмове, што Царква адкрые доступ румынам у ватыканскі архіў, а таксама выдаткуе пазыку на 25 гадоў. (Двухбаковыя стасункі былі разарваныя ў 1951 годзе пад ціскам Крамлю, калі Апостальская нунцыятура была абвінавачаная ў выведніцкай дзейнасьці на карысьць *CIA*).

У 1960-62 гадох *DIE* удалося прагледзець у Ватыканскім архіве і Апостальскай бібліятэцы сотні дакументаў, якія датычыліся Пія XII. Іён Пачэпа пераслаў дакументы ў КГБ у цэнтр. Дакументы тыя, на яго думку, не пацьвярджалі вінаватасьць Папы, але маглі быць выкарыстаныя для "лёгкай мадыфікацыі". Генерал Пачэпа, як сам сьцьвярджае, пазьней даведаўся, што яго матэрыялы былі паддадзеныя "апрацоўцы" і з іх зроблены сродак барацьбы з Папам. У ролі "карыстанага ідыёта" выступіў малавядомы ў той час заходне-нямецкі пісьменьнік Рольф Хохут (*Rolf Hochhuth*). Савецкі КГБ передаў яму матэрыялы пра Папу, а ён на іх падставе напісаў драму "Намесьнік" ("*Der Stellvertreter*"), надрукаваную ў 1963 годзе. У ёй Папа Пій XII ня толькі не бароніць габрэяў, але яшчэ й заахвочвае Гітлера да працягу Халакосту. Табуны савецкіх агентаў і іх наіўных сяброў разрэкламавалі кнігу як сусьветны бэстселер. Яшчэ ў 2003 годзе зьявіўся на яе аснове фільм. Твор быў перакладзены на 20 моваў і стаў галоўным пунктам спасылак для шматлікіх кніжак і артыкулаў, што абвінавачвалі Папу Пія XII у антысемітызме.

**Забытая аўдыенцыя: "заўсёды мусіш ганарыцца, што ёсьць габрэем"**

У 1941 годзе Пій XII прыняў на аўдыенцыі маладога габрэя, які хацеў прасіць пра дапамогу Папы для сваіх суайчыньнікаў, інтэрнаваных італійскімі фашыстамі. Утрымліваліся яны ў нечалавечых умовах і цярпелі ад голаду. У прысутнасьці нямецкіх жаўнераў, якія таксама былі на сустрэчы з Папам, Пій XII два разы ў эмацыйным тоне сказаў габрэю, каб ганарыўся тым, кім ёсьць. Сітуацыю апісала ў красавіку 1944 году выданьне "*The Palestine Post*" ("*The Jerusalem Post*"), а ў апошні час успамінаў яе часопіс "*Inside The Vatican*".

Паводле Ўільяма Дойна, які знайшоў архіўны тэкст у бібліятэцы ўніверсітэту ў Тэль-Авіве, зацемка паходзіць ад ананімнага аўтара. Чаму забытая? Хутчэй за ўсё таму, што ніводны дасьледчык Халакосту яе не працытаваў, а шкада, бо яна мае велізарную вартасьць.

Падчас памятнай аўдыенцыі гэты габрэй быў апошнім з тых, хто быў дапушчаны да Папы Пія XII. Мужчына пачаў гаварыць да Папы па-італійску, але гэта выклікала ў яго вялікія цяжкасьці. Папа сам перайшоў на нямецкую мову, лічачы што гэта родная мова госьця. "Добра зрабіў, што прыйшоў да мяне з гэтым. Ужо пра гэта чуў. Прашу прыйсьці заўтра з напісанай заявай і перадаць яе майму Дзяржаўнаму сакратару, які зоймецца гэтай справай. А што да цябе, сын мой, ты ёсьць маладым габрэем. Ведаю, што гэта значыць, і спадзяюся, што заўсёды будзеш ганарыцца тым, што ты габрэй",– сказаў тады Папа. Далей цішэй, але ветлівым голасам сказаў да маладзёна, што ён гэтак сама важны, як і кожная іншая чалавечая істота. "А зараз ідзі, мой габрэйскі сябра, ідзі пад апекай Госпада і ніколі не забывай, што мусіш ганарыцца тым, што ёсьць габрэем",– дадаў Пій XII.

Невядома, якая была рэакцыя нямецкіх жаўнераў, якія звычайна прымаліся на аўдыенцыі. "*Inside the Vatican*" інфармуе, што Гітлер забараніў жаўнерам сустракацца з Папам Піем XII пасьля таго як даведаўся, што той робіць ім шматлікія заўвагі. Ўільям Дойна лічыць, што знойдзеная зацемка пацьвердзіць прыхільнае стаўленьне Пія XII да габрэяў і яго негатыўнае стаўленьне да антысемітызму. Ёсьць гэта асабліва важным для каталікаў, якія шмат гадоў імкнуцца да беатыфікацыі Пія XII, якога некаторыя аўтары абвінавачваюць у пасіўнасьці, а нават у прыхільнасьці да гітлераўска-нацыстоўскага рэжыму.

*Паводле рэд. Дарыюша Брунча, EAI (Варшава)*

**"Маўчаньне" Пія XII**

"Абвінавачаньні Пія XII у маўчаньні перад аблічам зьнішчэньня габрэяў пазбаўленыя падставаў",– сьцьвердзіў Дзяржаўны сакратар Апостальскай Сталіцы кардынал Тарчызіо Бертонэ. 24 студзеня 2007 году ён узяў слова падчас прэзентацыі італійскага выданьня кнігі аднаго з найвыбітнейшых ангельскіх гісторыкаў Марціна Джылберта: „Справядлівыя – невядомыя героі Халакосту".

Кардынал Бертонэ падкрэсьліў, што справы католікаў, якія ратавалі ў тыя часы габрэяў, ставяць пад сумнеў абвінавачаньні, быццам Папа Пій XII хацеў супрацоўнічаць з Гітлерам, а таксама тэзы пра каталіцкі антысемітызм. Каталіцкая Царква, якую разумеем як інстытуцыю, адыграла немалую ролю ў дапамозе перасьледаваным. Па ініцыятыве Пія XII стараліся каардынаваць намаганьні на карысьць ахвяраў вайны, а таксама паказваць верным узор паводзінаў. Ня маецца на ўвазе толькі пошук зьніклых і дапамога для вязьняў. Габрэям, якіх перасьледавалі, дапамагалі ўсімі магчымымі спосабамі.

Кардынал Т.Бертонэ лічыць, што рупліва сабраная ў кнізе М.Джылберта дакументацыя пацьвярджае, што таксама і Пія XII трэба лічыць за аднаго з "справядлівых сярод народаў сьвету". Прагнучы ацаліць як найболей чалавечых істотаў, яго публічныя прамовы мелі характар стратэгічны і былі прыстасаваныя да акалічнасьцяў, у якіх выпадала Папу выступаць. Царква сьведама таксама й таго, што адразу пасьля заканчэньня вайны тысячы габрэяў, а таксама і ўлады Ізраіля імкнуліся падзякаваць Пію XII за падтрымку ды абраную ім стратэгію. Ватыканскі Дзяржаўны сакратар нагадаў, што ўжо ў 1928 годзе ватыканская дыкастэрыя *Sanctum Officium* асудзіла антысемітызм.

*Паводле Радыё Ватыкан*

## Бабуліна кніжка стался пачаткам майго шляху да Бога



Калі ўвечары зазваніў тэлефон і на іншым баку я пачуў голас свайго сябра, я нават ня мог здагадацца, што ён зьвернецца да мяне з прапановай напіса ць у газету "Царква" артыкул-сьведчаньне маёй веры. Па праўдзе я адразу згадзіўся, але пасьля размовы задумаўся, а што я магу распавесьці людзям. Пасьля доўгіх ваганьняў я вырашыў напісаць пра свой асабісты шлях да Бога і да Царквы.

Я рос у звычайнай савецкай сям'і з Магілеўскай вобласьці, у якой не было месца для веры. З дзяцінства гэтая тэма мела своеасаблівае табу. Бо, дзякуючы прапагандзе, пакаленьне маіх бацькоў расло ў духу будаўнікоў камунізму і адзінае, у што можна было верыць, дык гэта ў сьветлую будучыню. Савецкая ідэалогія здолела вынішчыць веру ў Бога, а напоўніць душу чалавека якімі-небудзь каштоўнасьцямі гэтак і не змагла. І таму мае бацькі, якія ў гэтым не адрозьніваліся ад большасьці, лічылі, што чалавечае жыцьцё й вера несумяшчальныя рэчы. Царкоўныя сьвяты мелі толькі практычны сэнс: на Вадохрышча "зараджалася вадзічка", Вялікдзень быў днём, калі пякуць булкі і фарбуюць яйкі. А што за ўсім гэтым – таямніца. І, здавалася б, рос бы сабе й ні пра што ня думаў. Але памяць захавала яркія ўражаньні пра маю бабулю, што кожны вечар перад сном малілася. А пасьля, калі мне было 7 гадоў, мая бабуля адышла ў іншы сьвет. Мой тата праз некаторы час прывёз некалькі рэчаў з бабцінай кватэры, і сярод іх была ўсяго адна кніжка. Гэтая кніжка сталася пачаткам майго шляху да Бога. Кніжка называлася "Новы запавет і Псалтыр".

Дзесьці гадоў праз пяць я пачаў чытаць гэтую кніжку. Вядома, што без падрыхтоўкі я мала што разумеў, але мяне зацікавіла гэтая гісторыя, гісторыя нашага збаўленьня.

У старэйшых класах школы я разам з маімі сябрамі пачаў свае духоўныя пошукі. Мы часам наведвалі праваслаўную

царкву, каталіцкі касьцёл, але нідзе па-сапраўднаму сябе я не знайшоў. Я ў той час ужо лічыў сябе чалавекам веруючым, бо дакладна ўжо ведаў, што веру ў Бога Ўсемагутнага. Заставалася толькі знайсьці тое месца, дзе я з Ім сустрэнуся.

Чытаючы ў падручніку па гісторыі пра Ўніяцкую Царкву, я нават ніколі й ня думаў, што яна існуе і ў нашыя часы. Прынамсі ў маім родным Бабруйску парафіяў нашае Царквы няма і да сёньня. Скажу шчыра, мяне больш за ўсё вабіла беларуская Царква, тая Царква, якая нясе ўсё духоўнае багацьце, назапашанае стагоддзямі хрысьціянства ў Беларусі. І гэтай Царквой для мяне была Ўніяцкая Царква, якая, па маім меркаваньні, адпавядала гэтым крытэрам.

Пасьля школы я паступіў вучыцца ў Менск. Першыя два месяцы "сталага незалежнага" жыцьця ў сталіцы для мяне былі самымі складанымі, бо я адчуваў сябе чужым і самотным у гэтым вялікім горадзе. І ўявіце, як я зьдзівіўся, калі ўжо праз месяц маёй вучобы ў Менску я пабачыў артыкул Сяржука Абламейкі ў газеце "Наша Ніва" пра Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву ў нашыя дні. Праглядзеўшы вачыма артыкул, я адразу спыніўся на нумарах тэлефонаў сьвятароў. Калі я патэлефанаваў па адным з іх, мне адказаў а. Андрэй Абламейка. Даведаўшыся, што я тэлефаную, прачытаўшы артыкул, ён запрасіў мяне на сьв. Літургію. Першым набажэнствам, у якім я ўзяў удзел, была служба за памёрлых на Дзяды 2000 году. Пасьля малітвы а. Андрэй запрасіў наведаць капліцу, каб пазнаёміцца бліжэй. Для мяне гэты дзень стаў маім асабістым сьвятам, бо я знайшоў тое, пра што толькі марыў. Мінула ўжо шэсьць гадоў, але я дакладна бачу перад вачыма, як усё тады адбывалася, і ўпэўнены, што не забуду таго моманту да канца сваіх дзён.

Ад гэтага часу пачалося іншае жыцьцё, бо я выйшаў на свой шлях да Бога, вельмі няпросты шлях, але гэта шлях майго збаўленьня. Бог паслаў мне добрых сяброў і настаўнікаў, і я вельмі ўдзячны ім за тое, што яны былі і ёсьць побач, духоўна ўзбагачаюць і дапамагаюць мне на маім шляху да Бога. У Царкве я знайшоў і сваё каханьне. Яшчэ шэсьць гадоў таму, калі адна дзяўчына рыхтавала мяне да першай споведзі, я б ніколі нават і не падумаў, што яна стане маім лёсам. У 2004 годзе мы з ёй ажаніліся і сёньня маем ужо маленькага сына.

Падсумоўваючы сваё апавяданьне, мне хацелася б сказаць, што адчуваньне сапраўднай хрысьціянскай еднасьці і любові можна адчуць толькі ў Царкве. Таму хачу зьвярнуцца да ўсіх Вас, паважаныя чытачы й вернікі, дзяліцеся сваім рэлігійным досьведам з іншымі, дасылайце на адрас нашай газеты свае сьведчаньні пра ўласны шлях да Царквы, да Бога, бо толькі калі мы разам, калі мы адкрытыя адзін да аднаго – мы адкрытыя да Бога, мы – Царква. Я буду вельмі ўдзячны ўсім, хто падтрымае гэтую ініцыятыву.

***Зьміцер,*** *парафія сьв. Язэпа, г.Менск*

## Парцэлы

* * *

Вось сьляпы<br>прада мною...<br>Ён – чалавецтва<br>прад Богам...

* * *

Каб нарадзіцца<br>на гэтым сьвеце,<br>трэба памерці<br>на тым?..

* * *

Паранены небам,<br>сьцякае,<br>нібыта крывёю,<br>вершамі...

* * *

Выгнаных з раю<br>нашчадкі...

Зямля –
папраўчая калонія!

* * *

Жанчына
выношвае плод...
Прырода
душу апранае.

* * *

Вечнасьцю
доўжыцца гаць.
Бярвёны яе –
папярэднікі...

* * *

Вонкавы
выгляд зямлі –
адбітак
нутра народу...

* * *

Серны смурод,
стогны і дым
пекла...
Плавяцца душы.

* * *

Зрываем,
каштуем плады...
Малпы
на дрэве пазнаньня.

* * *

Будаваўся
рай для цела...
Руйнаваўся
храм душы...

* * *

Вера –
тоіць бязьмежжа.
Бязьвер'е –
хавае мяжу...

**Алесь Макраўцоў**
*г.Менск*

## Пра грэка-католікаў, грэка-рымскую барацьбу, пост і прычасьце

На пытаньні чытачоў адказвае **айцец Андрэй Крот**

***1. Хацелася б падрабязьней даведацца пра літургічны пост у Грэка-Каталіцкай Царкве. Я ведаю меркаваньне, што яго трэба захоўваць з раніцы да Літургіі, гэта значыць, калі Літургія, скажам, каля 11 гадзіны, нічога ня есьці фактычна да абеду. А калі Літургія, напрыклад, а 14.00 і пазьней – што тады? Ці ёсьць нейкія парады на гэты конт?***

***Натальля Баярын**, г.Барысаў*

Пост, пра які Вы пытаецеся, правільна назваць еўхарыстычным. Сапраўды, ад старажытных часоў, калі Літургія звычайна адбывалася апоўдні ў нядзелю, прынята было захоўваць пост (гэта значыць нічога ня есьці) з раніцы да Літургіі. Некаторыя з нашых вернікаў і сёньня захоўваюць такую годную пашаны традыцыю, хоць яна сёньня не зьяўляецца абавязковаю.

Сёньня далёка не ва ўсіх нашых парафіях Літургія можа адбывацца раніцаю. У некаторых парафіях, дзе няма свайго сьвятара, Літургія можа адбывацца і а 18-й, і а 19-й гадзіне. Таксама ў тых беларускіх грэка-каталіцкіх парафіях, дзе Літургія служыцца штодзень, часта яна бывае ўвечары. Захоўваць поўнае ўстрыманьне ад ежы да літургіі ў такіх умовах, зразумела, немагчыма. Таму вернікаў БГКЦ (як і вернікаў іншых усходніх каталіцкіх Цэркваў) абавязвае ўстрыманьне ад ежы адну гадзіну да пачатку Літургіі (у адрозьненьні ад рыма-каталікоў, якія захоўваюць пост гадзіну да прычасьця). Не забараняецца ў гэты час прымаць лекі альбо піць чыстую ваду.

***2. Цікава было б даведацца, калі і пры якіх умовах дзеці ў БГКЦ маюць права прымаць прычасьце. Я ведаю так, што бяз споведзі дзеці могуць прымаць прычасьце да моманту іх першай споведзі, а яна можа адбыцца пачынаючы з сямі (васьмі?) гадоў і не пазьней за 12. (Наколькі я ведаю, да 12 гадоў адбываецца першая споведзь у РПЦ). Але хацелася б ведаць дакладна. І, калі ў гэтым пытаньні ёсьць якія разыходжаньні ў розных Цэрквах, пра іх – таксама.***

Канон 710 Кодэксу канонаў Усходніх Цэркваў дазваляе кожнай Царкве свайго права самой вызначаць узрост для першага прычасьця дзіцяці. На жаль, у Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве пакуль што няма нейкага нарматыўнага дакументу, які б акрэсьліваў такі ўзрост. Аднак практыка ў розных парафіях БГКЦ склалася прыкладна аднолькавая.

Маленькае дзіцяне можа прыступаць да прычасьця бяз споведзі адразу пасьля хросту і да 7-8 гадоў. У гэтым узросьце, як лічыцца, яно ўжо ў стане адрозьніваць добрыя і дрэнныя ўчынкі і здольнае падрыхтавацца (пры дапамозе бацькоў альбо іншых дарослых) да сваёй першай споведзі. Сёньня ў парафіях ня рэдка даводзіцца займацца катэхізацыяй дзяцей "з вуліцы". Таму першая споведзь і прычасьце іх адбываюцца ў старэйшым узросьце, пасьля адпаведнай падрыхтоўкі. Таму здараюцца першыя споведзі дзяцей, старэйшых за 12 гадоў.

***3. Нядаўна ў прыватнай гутарцы "даведалася", што, аказваецца, мы "не каталікі, а ўніяты". На маё пытаньне, а хто ж такія тады грэка-каталікі, мне адказалі – тыя, хто служыць і ў лацінскім, і ва ўсходнім абрадзе. Дзе ўсё ж такі праўда? І ў чым прычыны дадзенага меркаваньня?***

Прычына такога, адразу адзначым – памылковага – меркаваньня ў тым, што, як казаў адзін мой знаёмы, "народ у нас цёмны, не адрозьнівае грэка-католікаў ад грэка-рымскай барацьбы". Грэка-католікі – гэта католікі ўсходняга, а канкрэтна – візантыйскага абраду (у ім практыкуюць таксама і праваслаўныя). Ніхто ня можа належыць адначасова да некалькіх абрадаў – усходняга і лацінскага. Нават калі грэка-католік і вымушаны ў сілу абставінаў (адсутнасьць у мясцовасьці, дзе ён жыве, царквы ўласнага абраду) маліцца ў чужым абрадзе, на ўсё жыцьцё ён застаецца каталіком усходняга (візантыйскага) абраду. Тыя ж сьвятары, якія служаць і ва ўсходнім, і ў лацінскім абрадзе, называюцца бірытуалістамі (ад лацінскага *bi* – падвойны, *ritus* – абрад). Хоць на самай справе і яны належаць да пэўнага абраду, напрыклад, лацінскага, але маюць таксама дазвол на служэньне і ў іншым абрадзе.

Што ж да назваў грэка-католікі і ўніяты – гэта назвы тоесныя, пра гэта мы ўжо пісалі ў газеце "Царква" № 4 за 2004 год. Парайце, калі ласка, свайму знаёмаму ўважліва прачытаць артыкул "Адзін Госпад, адна вера, адзін хрост". Сёньня ўніятамі больш карэктна называць толькі тых вернікаў, якія зьядналіся з Апостальскім Рымскім Пасадам у выніку падпісаньня ярархамі Кіеўскай мітраполіі Берасьцейскай царкоўнай Уніі. (А таксама тых, што цэлымі парафіямі далучаліся да Каталіцкай Царквы ў 1920-30-ыя гады.) І калі да канца XVII ст. – пакуль Уніяцкая Царква паступова заваёўвала давер вернікаў у розных мясцовасьцях – гэты нецаркоўны тэрмін "уніяты" цалкам адэкватны, то ўжо напрыканцы XVIII ст., у дачыненьні да нашчадкаў тых вернікаў ён вельмі ўмоўны, бо, будучы народжанымі і ахрышчанымі ў Каталіцкай Царкве ўсходняга абраду, ім ня трэба было ні з кім аднаўляць царкоўную еднасьць.

*У беларускім грамадзтве на сучасным этапе разьвіцьця вельмі востра стаіць пытаньне захаваньня этнічнай адметнасьці, нацыянальнага "Я". Усё болей паглыбляючыся ў сусьветныя й рэгіянальныя інтэграцыйныя працэсы, мы*

*ўсё болей аддаляемся ад сваіх каранёў, губляючы ня толькі сваю сьвядомасьць, але й каштоўнасьці духоўнай і матэрыяльнай культуры, без якіх яна (сьвядомасьць) існаваць проста ня можа. На жаль, у летуценьнях сёньняшняга жыцьця звычайны беларус менш за ўсё зьвяртае ўвагу на свой духоўны стан, аддаючы перавагу праблемам працы, сям'і, камфорту, багацьця. У апошні час беларушчына нават губляе свае пазіцыі сярод інтэлігенцыі, якая заўсёды была яе абаронцам і выратавальнікам.*

*Праблема захаваньня нацыянальнай ідэнтычнасьці не ўпершыню паўстае ў гісторыі Беларусі. Гістарычна так склалася, што рэлігія ў гэтым пытаньні займала выключна важнае месца. Хрысьціянства заўсёды зьяўлялася для беларусаў адной з асноватворных каштоўнасьцяў, якія вызначаюць нас як нацыю. Аднак хрысьціянства разам з тым паўплывала й на палітычную палярызацыю беларусаў. Мы жывем на тэрыторыі, дзе сустракаюцца праваслаўе і каталіцызм. Іх узаемадачыненьні ды спроба суседніх народаў выкарыстаць рэлігію ў сваіх мэтах часта прыводзілі да прыўнясеньня палітычнага чыньніка ў дзейнасьць Царквы. Усё гэта прыводзіла да канфрантацыі розныя пласты нашага грамадзтва, што асабліва бачна ў XIX – пачатку XX стст., калі беларусы перажывалі этап фармаваньня сваёй нацыі й станаўленьня ўласнай самасьвядомасьці. Менавіта ў тыя часы ў асяродках беларускіх адраджэнцаў паўстае пытаньне кансалідацыі народу, яго духоўнага адзінства. Думкі многіх патрыётаў зьвярталіся да Уніі, якая некалі аб'ядноўвала большасьць беларусаў і была фактычна – нацыянальнай Царквой. На іх думку, менавіта Унія магла б быць той "залатой сярэдзінай", якая б аб'яднала духоўна маладую беларускую нацыю.*

*Першымі пра гэта загаварылі Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі, якія бачылі ва ўніяцтве вяртаньне да тых часоў, калі "нашыя дзяды жылі ў міры й згодзе". У 1917 годзе, у лёсавызначальныя гадзіны для Беларусі, партыя "Хрысьціянская дэмакратычная злучнасьць" актыўна прапагандавала сваю праграмную мэту – "зьбліжаць усіх каталікоў і праваслаўных, аб'яднаць іх у адной веры дзеля згоды ва ўсёй краіне".*

*Сёньня пытаньне пра кансалідацыю беларусаў, найперш, духоўную, зноў набірае моц. І Грэка-Каталіцкая Царква, на маю думку, не павінна займаць у вырашэньні гэтай праблемы апошняе месца. Уніяцтва заўсёды было носьбітам беларускай нацыянальнай ідэі. Мяркую, грэка-каталікам трэба актыўна ўключацца ў міжканфесійныя дыялогі і супрацоўніцтва ня толькі з Рыма-Каталіцкай Царквой, але й з праваслаўнымі і пратэстантамі, актыўна ўдзельнічаць у розных культурных мерапрыемствах. Толькі разам мы зможам адрадзіць духоўны стан беларуса, надаць яму любоў да сваёй роднай мовы й культуры.*

Алесь Горны, г.Горадня

## Што рабіць, калі адзін з сужонкаў ня хоча хадзіць у нядзелю ў царкву?

М., г.Берасьце

Пытаньне гэтае хвалюе, пэўна, ня толькі Вас, але шматлікіх хрысьціянаў ва ўсім сьвеце. Часта сустракаем сітуацыю: у сям'і нехта пакаяўся, паверыў у Хрыста, імкнецца весьці паўнавартаснае хрысьціянскае жыцьцё, удзельнічаць у нядзельнай сьв. Літургіі ды прагне дзяліцца вераю з сваімі блізкімі – мужам, жонкаю, бацькамі, дзецьмі. Аднак тыя не разумеюць яго веры і, не зважаючы ні на якія аргументы, адмаўлюцца актыўна ўдзельнічаць у жыцьці Царквы.

Нельга даць нейкага адназначнага рэцэпту, як прывесьці чалавека ў Царкву. Пытаньне ўдзелу ў нядзельнай сьв. Літургіі – гэта пытаньне асабістай веры чалавека, ягонай сустрэчы з Госпадам і яго асабістага рашэньня. Калі чалавек не прыняў Госпада, не адчуў асабістай патрэбы сустракацца з Ім кожную нядзелю ў Сьвятым Прычасьці, ніякія аргументы не дапамогуць.

Аднак хрысьціянін ня мусіць сядзець бясчынна й чакаць, пакуль яго бліжні "дасьпее" да сустрэчы з Хрыстом. Канечне ж, мы не павінны прымушаць нашага сужонка, сына або дачку ісьці ў нядзелю ў царкву. Недапушчальны тут ніякі прымус, бо ён адверне чалавека ад Хрыста і Царквы. Ваш блізкі мусіць адчуваць, што яго рашэньне ісьці або не ісьці ў царкву ня выкліча ніякіх зьменаў у "хатнім клімаце" – на яго ня будуць крыўдзіцца, сварыцца, "чытаць маралі". Наадварот, пасьля кожнай сустрэчы хрысьціяніна з Госпадам (падчас Еўхарыстыі альбо пасьля асабістай малітвы), няверуючы блізкі чалавек мусіць адчуваць ад яго яшчэ больш любові, цеплыні й разуменьня.

Часта нежаданьне ўдзельнічаць у нядзельнай Боскай Літургіі бывае выклікана няправільным вобразам Царквы, неразуменьнем набажэнства, нейкім прыкрым досьведам, уражаньнямі або стэрэатыпамі. Пастарайцеся іх зьмяніць: пасьля нядзельнай Літургіі распавядзіце сужонку, якое прыгожае і ўрачыстае было набажэнства, пра што казаў сьвятар на казаньні (асабліва, калі казаньне датычыла тэмы, якая цікавіць сужонка), раскажыце пра нейкія падзеі парафіяльнага жыцьця.

Шмат каму, хто нядаўна прыйшоў у Царкву альбо практыкуе нерэгулярна, Літургія здаецца доўгаю, нуднаю і незразумелаю. Такія адносіны паходзяць з няведаньня літургічнай традыцыі нашай Царквы. Даведайцеся, ці няма ў Вашай парафіі групы, якая займалася б вывучэньнем літургіі. Калі такой групы няма, папрасіце сьвятара альбо іншую дасьведчаную асобу (каго блаславіць на гэта сьвятар), правесьці невялічкі "літургічны курс", які мог бы патлумачыць ня толькі Вашаму сужонку, але таксама і іншым парафіянам асноўныя моманты Боскай Літургіі, іх сэнс і значэньне. Каб глыбей пазнаць літургію і навуку Царквы ўвогуле, можна прыняць удзел у катэхетычных курсах, пра якія мы пісалі ў адным з папярэдніх нумароў газеты.

Вельмі важным сродкам нашага "ўплыву" на няверуючых блізкіх ёсьць нашая малітва. Раю нават да свайго малітоўнага правіла далучыць асаблівыя малітвы за сужонка, сына або дачку, якія яшчэ не прынялі Хрыста. Аднак памятайце, што малітва не зьяўляецца таксама сродкам прымусу, і зусім не абавязкова, што пасьля месяца ці двух такой малітвы Ваш сужонак адразу пачне рэгулярна хадзіць у царкву. Часамі патрэбна доўгая, шчырая і трывалая малітва, каб чалавек урэшце сустрэў у сваім жыцьці Ісуса Хрыста, адчуў патрэбу яднацца з Ім у Эўхарыстыі.

Напрыканцы хацеў бы працытаваць словы Сьвятога Пісаньня, якія датычаць Вашай сітуацыі: "...Няверуючы муж асьвячаецца жонкаю (верніцай), і жонка няверуючая асьвячаецца мужам (вернікам). [...] Адкуль жа можаш ведаць, жонка, ці ня збавіш свайго мужа? Альбо ты, муж, адкуль ведаеш, ці ня выратуеш жонкі?" *(1 Кар 7: 14а, 16).*

***айцец Андрэй Крот***

## Новы "Шлях да Хрыста"

***Пачатак 2007 году парадаваў вернікаў БГКЦ аднаўленьнем парафіяльнай газеты "Шлях да Хрыста", якую выдае менская парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі.***

Дагэтуль выйшла 57 нумароў газеты, першы нумар якой пабачыў сьвет у траўні 1999 году. На жаль, выхад газеты перапыніўся ў 2002 годзе. Адноўленае выданьне выходзіць цяпер на 12 старонках (у адрозьненьне ад папярэдняга, якое мела толькі 6-8) і мае 9 тэматычных разьдзелаў-рубрык. Плануецца, што газета будзе выходзіць раз на квартал.

Рубрыкі "Наша вера", "Сьцяжынка", "Сьветачы" ўжо знаёмыя чытачам, якія даўно ведаюць "Шлях да Хрыста". "Сьветачы" – гэта новая назва старой рубрыкі, якая распавядала пра постаці сьвятых. Вельмі цешыць, што і ў новым выданьні вырашана захаваць старонку для дзетак "Сьцяжынка". Тым больш, што матэрыялаў для дзяцей у нашай беларускай хрысьціянскай перыёдыцы зусім ня шмат.

Што да новых рубрык у адноўленай газеце, то яны маюць шматабяцальныя назвы, і многія матэрыялы ў іх сапраўды цікавыя. Хочацца зьвярнуць асаблівую ўвагу чытачоў на рубрыкі "Літургіка", "Лесьвіца", "Сьветачы", якія задаюць дух-атмасферу нумару. Вельмі сімпатычная таксама рубрыка "Пляцоўка", дзе падаецца рэцэнзія на фільм "Питер FM", інфармацыя пра матэрыялы сайту грэка-каталіцкай парафіі ў Даўгаўпіўсе (Латвія) і кароткае разважаньне пра стары добра вядомы ўсім мультфільм "Вожык у тумане".

Рубрыка "Постаці" распавядае пра славутых дзеячаў нашай мінуўшчыны. Матэрыялам на гістарычную тэматыку ўдзялялася шмат увагі і ў старым выданьні. У першым сёлетнім нумары ў гэтай рубрыцы надрукаваны матэрыял пра вядомую беларускую мецэнатку і прыхільніцу адраджэньня Ўніяцкай Царквы княгіню Магдалену Радзівіл. Гістарычную тэматыку, распачатую ў рубрыцы "Постаці", працягваюць матэрыялы з рубрык "Вандроўкі" ды "Нашы сьвятыні". Пры ўважлівым аналізе матэрыялаў, зьмешчаных у першым сёлетнім нумары газеты, паўстае, аднак, пытаньне: ці не дублююць гэтыя дзьве рубрыкі адна адну?

Каб нейкая канструкцыя была ўстойлівая, яна павінна мець прынамсі тры ножкі. Можна сказаць, што новы нумар "Шляху да Хрыста" мае гэтыя тры ножкі-стаўпы, якія трымаюць ды ствараюць цэласнасьць, агульнае бачаньне нумару. Гэтымі стаўпамі ў адноўленай парафіяльнай газеце зьяўляюцца матэрыялы духоўнай, гісторыка-культурнай і дзіцячай тэматыкі. Хоць, здаецца, адну "ножку" ў гэтым царкоўна-рэлігійным выданьні можна было б трошкі і "падпілаваць" – для ўстойлівасьці. Матэрыялы на гістарычную тэматыку ў першым сёлетнім нумары яўна дамінуюць. Таксама хацелася б прапанаваць выдаўцам больш ужываць графікі і менш здымкаў – рызограф, на якім друкуецца газета, на жаль, ёсьць да здымкаў бязьлітасны. Калі ня браць пад увагу асобныя недахопы, то нумар атрымаўся добры.

Падсумоўваючы, павіншуем Рэдакцыю (склад якой таксама аднавіўся) і чытачоў з неблагім пачаткам. І калі ў наступных нумарах больш увагі будзе ўдзяляцца яшчэ й рэдагаваньню матэрыялаў, то, не сумняваемся, працяг будзе толькі яшчэ лепшы.

# Памінальная пілігрымка ў Дамачава

***10 лютага 2007 году, у памінальную Бацькоўскую суботу, што перад Вялікім постам, група берасьцейскай моладзі зьдзейсьніла пілігрымку ў невялікае прыбужскае мястэчка Дамачава.***

Там, на тэрыторыі касьцёлу сьв. Антонія, знаходзіцца адзіны ў рэгіёне помнік паўстанцам Кастуся Каліноўскага. Помнік у выглядзе мураванага крыжа быў усталяваны яшчэ ў міжваенны час. Ён ушаноўвае памяць паўстанцаў берасьцейскага атраду (лекарам там быў стрыечны брат К.Каліноўскага Ян), якія прынялі бой 14 траўня 1863 году каля в. Чэрск, што паблізу Дамачава.

Дзякуючы Божаму Провіду і актыўным дзеяньням сп. Яўгена Гамзюка, які сёньня зьяўляецца старшынём касьцёльнага камітэту, Саветам не ўдалося зьнішчыць крыж у сярэдзіне 1960-ых, нават калі касьцёл быў ужо зачынены.

Ля памятнага крыжа моладзь запаліла лампадкі і ўсклала кветкі. Беларускі грэка-каталіцкі сьвятар а. Андрэй Буйніч адслужыў Малебен за беларускі народ і маліўся за супакой паўстанцаў 1863 г., а таксама выдатнага беларускага сьвятара-патрыёта кс. Пятра Татарыновіча. У міжваенны час ён аддана працаваў для справы Уніі на Палесьсі і, як пробашч у Дамачаве ў 1926-1931 гг., шмат зрабіў для адраджэньня рэлігійнага і культурна – асьветнага жыцьця ў гэтым прыбужскім мястэчку.

**Ігар Бараноўскі**

# Унія, браты Луцкевічы і мітрапаліт Шаптыцкі

*Браты Іван і Антон Луцкевічы – знакавыя асобы ў беларускім нацыянальным руху. Створаны імі разам з іншымі дзеячамі ў Вільні беларускі асяродак вакол газеты "Наша Ніва" стаў сэрцам усяго беларускага адраджэнскага руху. Але імёны братоў Луцкевічаў і іх велічэзная роля ў закладаньні падмуркаў сучаснай беларускай нацыі многія дзесяцігоддзі замоўчвалася савецкай прапагандай. А менавіта Луцкевічаў можна назваць бацькамі беларускай дзяржаўнасьці.*

*Разам з баптысцкім прапаведнікам з Берасьця Лукашом Дзекуць-Малеем Антон Луцкевіч спрычыніўся да зьяўленьня першага перакладу Новага Запавету і Псальмаў на беларускую мову. Гэты пераклад і сёньня карыстаецца папулярнасьцю ў многіх вернікаў розных канфесіяў, але, на жаль, беларускія хрысьціяне ніяк не адзначылі летась 75-годдзе гэтай важнай падзеі.*

*Для нашай Грэка-Каталіцкай Царквы асабліва варта адзначыць, што менавіта браты Луцкевічы спрычыніліся да ідэі адраджэньня Уніі ў Беларусі на пачатку XX стагоддзя. Пра погляды братоў Луцкевічаў на Унію, пра тое, як зноў нараджалася гэтая ідэя ў Беларусі, пра кантакты Луцкевічаў з мітрапалітам Галіцкім Андрэем Шаптыцкім, распавядае ў сваім рэфераце (які друкуем з невялікімі скарачэньнямі) гісторык Анатоль Сідарэвіч.*

*Толькі зусім нядаўна канчаткова ўстаноўлена дата й месца сьмерці Антона Луцкевіча, які быў арыштаваны НКВД па сфальшаванй справе "Беларускага нацыянальнага цэнтру" 30 верасьня 1939 году, як толькі Саветы прыйшлі ў Вільню. Засуджаны за антысавецкую дзейнасьць на 8 гадоў лагероў, ён памёр 23 сакавіка 1942 году на перасыльным пункце ў г.Аткарск Саратаўскай вобласьці. Вось жа гэты артыкул А.Сідарэвіча мы прысьвячаем памяці Антона Луцкевіча ў 65-ыя ўгодкі яго сьмерці, а таксама памяці яго брата Івана.*

Пішучы гэты рэфэрат, я лавіў сябе на думцы, што чытачы могуць запытацца: а чаму ты не разглядаеш адносіны паміж братамі Луцкевічамі і мітрапалітам Галіцкім Андрэем у кантэксьце тагачасных беларуска-ўкраінскіх адносінаў? Таму адразу мушу зацеміць, што нават вузейшая тэма – "Браты Луцкевічы і Ўкраіна" – патрабавала б адмысловага шматстаронкавага дасьледаваньня. Сёньня я бяру вузейшую тэму. І стаўлю перад сабою тры задачы: паказаць, як браты Луцкевічы глядзелі на справу Уніі, якія ўнійныя праекты выпрацоўваліся ў Вільні і Львове і што нам вядома пра кантакты братоў Луцкевічаў з мітрапалітам Шаптыцкім.

**1.**

Пытанне пра царкоўную Унію (пра яе магчымасьць) у Беларусі пачатку XX ст. не магло ставіцца, але, карыстаючы з

цэнзурных паслабленьняў і з закону аб верацярпімасьці, А.Луцкевіч мог пісаць, што ў Расеі "трэба канешне дабіцца... поўнай свабоды суменьня і веры". Разважаючы пра свабоду сумленьня, пра тое, што кожны чалавек "можа верыць як хоча", што "за веру караць... або прыцясьняць і крыўдзіць ніхто права ня мае", што кожны "можа шырыць сваю рэлігію між народам саўсім свабодна і бяз страху перад "начальствам", што "ня можна нікому бараніць перамяняць рэлігію на іншую або адрэчся ад усялякай рэлігіі", нагадаўшы, што "шмат бяды ды гора цярпел і ў нас людз і за веру, дый цяпер яшчэ церпяць", А.Луцкевіч у артыкуле "Аб свабодах" *("Наша Ніва". 1907. 25 студзеня)* паступова падводзіць чытача да згадкі пра Унію: "Не так даўно была ў Беларус і вера ун і яцкая, дык прав і цельства саўс і м яе скасавала і прыказала ун і ятам прыняць праваслаўе. Але як народ з добрай волі не хацеў зьмяніць сваей веры, то правіцельства сілаю прымушала да гэтага".

У 1909 г. А. Луцкевіч піша для чэшскага часопісу "*Slovansky Přehled*" артыкул "Национальнае возрождение белорусов". Гэтая праца друкавалася таксама ў "*Московском еженедельнике*" *(1909, № 9)* і польскамоўным часопісе "*Litwa*" *(1909, nr 4)*. Рукапіс гэтага артыкулу захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук *(ф. 21, спр. 336, арк. 1–19)*. У артыкуле Луцкевіч пісаў, што "русификаторская деятельность" расейскага чыноўніцтва была накіраваная на выкараненне ўсяго, што "придавало Белоруссии особый местный колорит". Сярод гэтых мераў царскіх уладаў было і "уничтожение одного из главных устоев национальности – белорусской национальной церкви (Унии)". Тое, што Унія служыла "крепким оплотом белорусской народности", А. Луцкевіч сьцьвярджаў таксама ў артыкуле "Белорусы", зьмешчаным у зборніку "*Формы национального движения в современных государствах*" *(СПб, 1909).*

Такія былі погляды А.Луцкевіча на Унію ў даваенны час. Іншыя магчымасьці для выказваньня меркаваньняў наступілі пасьля прыходу ў Вільню кайзераўскай арміі і заснаваньня газеты " *Homan*" (з восені 1916 г. выходзіла і кірылічнае выданьне гэтае газеты).

26 сакавіка 1916 г. Луцкевіч друкуе артыкул "Зваротная хваля". Гэта, бадай, першая яго публікацыя, у якой ён даволі свабодна і разгорнута выказваецца пра свабоду сумленьня і Унію.

Пачаўшы з тэзісу, што "найцяжэйшы ўціск на сьвеце – гэта ўціск сумленьня людзкога", аўтар нагадвае "панурыя часы, калі за веру людзей вялі на мукі і сьмерць; калі за яе вырэзывалі тысячы інаверцаў, не шкадуючы ні малых, ні старых, ні жанок". Разам з тым ён нагадвае і "слаўнае змаганьне" лепшых сыноў чалавецтва "за свабоду веры, за вызваленьне людзкога духа ад усялякага прымусу, ад усялякай няволі". І калі для Еўропы рэлігійны ўціск стаўся справай мінуўшчыны, дык у Расіі ён "датрываў... да апошніх дзён", канстатуе аўтар. У гэтай сувязі ён нагадвае "толькі аб адным мамэнце рэлігійнага ўціску" – аб скасаваньні Уніі.

Луцкевіч адзначае, што "да ўніяцкай веры прыналежалі ў Расеі беларусы і ўкраінцы, дый ніхто болей" і што "асобнасьць веры, побач з нацыянальнымі асобеннасьцямі, выдзяляла гэтыя два народы яшчэ болей спаміж суседніх славянскіх народаў – маскалёў і палякаў". Уніяцкая рэлігія, піша ён, "служыла моцнай апорай для беларусаў і ўкраінцаў", бо яна "ўжывала ў сваіх цэрквах народную мову". Па-другое, яна "апекавалася бясправаўнымі, заціснутымі прыгонам сялянамі і зрабілася праўдзівай "мужыцкай" верай". У тым, што "багатыры адракаліся яе", была і слабасьць Уніяцкае Царквы: "ня маючы зашчыты людзей можных, яна не магла бараніцца, калі царскім урадам ей прачытан быў сьмяротны прыгавор".

Нагадаўшы, што "сяляне нашы доўга яшчэ дзяржаліся веры бацькоў сваіх" і памяталі "аб сотнях сваіх ксяндзоў, вывезеных маскалямі ў Сыбір, у расейскія манастыры", Луцкевіч зьвяртаў увагу чытачоў, што яшчэ ў 1870-х гадох "маскоўскія чыны ўстраівалі крывавыя экспэдыцыі з казакамі, каб "наварачываць" непакорных уніятаў".

Асабліва трэба заценіць: Луцкевіч быў перакананы, што ліквідацыя Уніі ў 1839 г. "нічога супольнага з рэлігійнымі справамі ня мела: яна была чыста палітычная". І з гэтай прычыны, дадаваў ён, "гвалт дзяржаўнай уласьці над сумленьнем "пераверненых" на праваслаўе мільёнаў людзей робіцца яшчэ горшым, яшчэ болей бясстыдным, бо яго нельга апраўдаць сьлепатой людзкой", г. зн. рэлігійным фанатызмам.

Чаму ліквідацыя Уніі была чыста палітычнаю акцыяй? У артыкуле "Зваротная хваля" Луцкевіч адказвае на гэтае пытаньне лапідарна: расейскі ўрад зьнішчыў Унію дзеля таго, што жадаў "зьліць беларусаў і ўкраінцаў з народам маскоўскім".

Навошта спатрэбілася царызму абмасковіць беларусаў і ўкраінцаў, – пра тое Луцкевіч напісаў шырэй у артыкуле "Расейская палітыка ў Беларусі" *("Homan". 1916. 21 сакавіка).*

Аўтар паказвае адзін асьпект каланіяльнай палітыкі Расейскай імперыі, а менавіта пасьлядоўна праводжаную "палітыку нішчэньня сьлядоў самабытнасьці Беларусі, Літвы, Украйны, Польшчы, Фінлядыі, Каўказа і др.". Гэта была згубная для самой імперыі палітыка, упэўнены А.Луцкевіч, але Расея яе праводзіць, бо "ў Расейскай дзяржаве маскалі сваім лікам далёка не пера важываюць другіх народаў: на паўтараста мільёнаў жыхароў гасударства маскалёў лічылася ў 1897 гаду толькі 55 мільёнаў душ,– значыць, крыху больш за трацінy". Каб панаваць над 100 мільёнамі "інародцаў", царскі ўрад зьвярнуў асаблівую ўвагу на амаль 9 мільёнаў беларусаў і 22 мільёны з лішкам украінцаў. Гэтыя два "братнія" народы падлягалі зьнішчэньню як самастойныя этнасы "ў першы чарод", іх належала зьліць "у адно з маскалям". І "тады лік маскоўцаў – разам з абмаскалеўшымі беларусамі і ўкраінцамі – узрос бы блізка на 32 мільёны і

дайшоў бы бязмала 90 мільёнаў душ". "Гэтак,– робіць выснову А. Луцкевіч,– лічэбная перавага была бы на старане маскалёў, і яны маглі бы папраўдзе панаваць у сваей дзяржаве, нішчучы ўсе іншыя нацыі адну за аднэй".

І яшчэ адну выснову робіць аўтар: "Паказаныя цыфры кажуць нам такжа, што маскоўскі ўрад хутчэй дасьць волю ўсім "інародцам", чым беларусам і ўкраінцам".

Такія думкі, можна меркаваць, А. Луцкевіч выснаваў раней, да вайны, але выказаць іх публічна змог толькі пасьля таго, як заходняя частка Беларусі апынулася пад немцамі.

**2.**

Такія погляды Антона Луцкевіча на мінуўшчыну Уніі ды яе характар. Ці бачыў ён персьпектыву? Адкажам адназначна: так.

У артыкуле "Национальное возрождение белорусов" А.Луцкевіч піша аб перашкодах на шляху станаўленьня беларускае нацыі. У прыватнасьці ён адзначае падзеленасьць беларусаў на каталікаў і праваслаўных. "В связи с этим делением,– піша ён,– часть белорусов (католики) подвержены влиянию польской культуры – через церковь и знакомы с латинской азбукой, другая же часть (православные), подчиняясь большему влиянию русских, знают русскую азбуку. Отсюда проистекают два обстоятельства, вредно отзывающиеся на белорусском национальном движении: во-первых, все книжки и газеты приходится издавать двумя изданиями – латинским и русским шрифтом, что сопряжено с огромной затратой средств; во-вторых, разделение религиозное служит почвой, на которой враги народа стараются сеять вражду между двумя частями белорусов".

Браты Луцкевічы, якія ў сваёй дзейнасьці штодзённа адчувалі наступствы канфесійнага падзелу беларускага народу, лічылі гэты стан ненармальным. Для іх ад пачатку нацыянальна-рэвалюцыйнае дзейнасьці ўсё больш актуальным станавілася пытаньне "о национальной белорусской церкви, каковой служила до 1839 года Уния, уничтоженная русским правительством". А.Луцкевіч, які фармуляваў свае і свайго брата высновы, быў упэўнены: калі "дело о национальной церкви станет на прочную почву, она сыграет крупную роль при возрождении белорусов и ляжет прочным устоем".

Вядома ж, у артыкуле "Национальное возрождение белорусов" А.Луцкевіч ня мог напісаць, што ён і ягоны брат ня толькі так думаюць, але і ўчыняюць адпаведныя захады дзеля адраджэньня Уніі на беларускай зямлі. Пра гэтыя захады А.Луцкевіч паведаміць 27 чэрвеня 1916 году – у артыкуле "Мітрапаліт Шаптыцкі ў Беларусі". Праўда, у гэтай публікацыі аўтар не ўдаецца ў асаблівыя падрабязнасьці. Ён паведамляе толькі што "гадоў 9-10 таму назад былі зроблены крокі перад расейскім правіцель ствам, каб пазволіла сяліцца ў беларускіх і ўкраінскіх губэрніях безьзямельным украінскім сялянам з Галіччыны, каторых афіцыяльна маскалі лічаць за такіх жа "расейцаў", як самі", і ўдакладняе, што "Сталыпін... на гэта не прыстаў затым, што гэтыя "браты" мелі няшчасьце быць уніятамі".

Не ўдаючыся ў дэталі, А.Луцкевіч пісаў таксама, што, "нягледзячы на пастаянны нагляд над усімі, хто так ці гэтак меў стычнасьць са справай уніі", мітрапаліту Шаптыцкаму "ўдалося раз прыехаць *incognito* ў Расею". Паколькі архіўладыка "асабліва цікавіўся... Беларусьсю, каторая ў справах уніяцкага касьцёла прыслухае яму", "мітрапаліт аб'ехаў значны кусок нашага краю, стараючыся пазнаць тутэйшыя настраеньні, пераканацца, ці жыве між народам памяць аб уніі". Аўтар паведамляў таксама, што "аб падарожы мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага правіцельства такі дазналася, але позна, калі мітрапаліт пакінуў ужо Расею".

Такая скупая, але немалаважная для нас інфармацыя зьявілася ў 1916 годзе. Больш зьвестак гісторыкі маглі атрымаць з артыкулу А.Луцкевіча "Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі Рух", які зьявіўся ў друку празь дзесяць гадоў[1].

**3.**

Паколькі ўсе дэталі ўнійнага праекту ведалі тры чалавекі – сам мітрапаліт Андрэй і браты Луцкевічы, я павінен спыніцца цяпер на пытаньні: "Браты Луцкевічы і мітрапаліт Шаптыцкі".

Калі адбылося асабістае знаёмства Антона Луцкевіча з мітрапалітам Андрэем, пра тое мы, магчыма, даведаемся калі пазьней. Што датычыць знаёмства з архіўладыкаю Івана Луцкевіча, дык яно адбылося ў 1904 годзе. Ва ўспамінах "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча" Антон Луцкевіч пісаў: "Варочаючыся зь Вены, ён [І.Луцкевіч] заяжджае ў галоўны цэнтр украінскага руху, Львоў, дзеля бліжэйшага знаёмства з украінцамі. Паміж іншым, тут ён знаёміцца з адным з сапраўдных стаўпоў украінскага адраджэньня – уніяцкім мітрапалітам Шаптыцкім, з каторым зыходзіцца бліжэй пачаткова на грунце так любай абодвым архэалёгіі, а пасьля і на грунце пытаньня аб Уніі"[2]. Праўда, як гэта іншы раз бывала ў публікацыях А.Луцкевіча, у артыкуле "Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух" ён запярэчыў сам сабе і напісаў, што ў Львоў І.Луцкевіч трапіў, "калі ўвосені 1904 году ехаў у Вену дзеля папаўненьня тамака сваей археалягічнай веды". Зьвярнуўшы ўвагу на гэтае разыходжаньне ў дэталях, мы мусім усё ж канстатаваць: асабістае знаёмства І.Луцкевіча і мітрапаліта Андрэя адбылося, і адбылося яно ў 1904 г.

Калі А.Луцкевіч піша, што, зьбіраючы памяткі старасьветчыны, І.Луцкевіч "ахвотна ўступаў другім тыя рэчы, якіх сам ня мог спэцыяльна зьбіраць або якія не маглі быць пры тагачасных варунках выкарыстаны дзеля беларускага музэю..., але мелі вагу для другіх калекцый", то гэта ня значыць, што ён "уступаў" тыя рэчы бясплатна, бо ўсё-ткі ён траціўся хоць бы на паездкі і куплю памятак. Так паміж архіўладыкаю ды І.Луцкевічам ўсталяваліся і дзелавыя кантакты. І многія рэчы, знойдзеныя І.Луцкевічам, трапілі ва Ўкраінскі царкоўны музей у Львове, заснаваны мітрапалітам Шаптыцкім. Так паступова ў гэтым музеі склаўся беларускі аддзел, а кустошам яго стаў І.Луцкевіч[3]. І гэтая інфармацыя пацьвярджаецца дакументальна: у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва *(ф. 3, воп. 1, адз. захав. 269, арк. 3)* маецца адпаведная грамата мітрапаліта Галіцкага Андрэя.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

*1 - Богословія (Львоў). 1926. Т. 4. Пераклад гэтага тэксту на польскую ў: "Przegląd Wileński". 1926. № 9.*

*2 - Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху: Выбраныя творы. Менск, 2003. С. 89.*

*3 - Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху... С. 94–95.*

"***Вера***,*– як кажа аўтар лісту да Габрэяў,– гэта зарука чаканага і пэўнасьць у рэчах, якіх ня бачым" (Габ 11, 1). Вера – гэта шлях. Шлях, на які трэба пагадзіцца і якім трэба ісьці. Куды вядзе ён, ці ўдасца на ім пераадолець спакусы і небясьпекі, перамагчы страх і самога сябе? Колькі ж сумных і радасных момантаў чакае нас на гэтай дарозе веры, колькі разоў трэба будзе прабачыць і самому папрасіць прабачэньня? Вера – гэта Вандроўка. Не пытайся цяпер куды. Гэта пытаньне для твайго сэрца... Але, калі хочаш, можам выбрацца ў гэтую дарогу РАЗАМ.*"

***Рэдакцыя***

## Дар веры

Аднойчы чалавек робіць сьвядомы і свабодны выбар ды кажа: "Так, Госпадзе, я веру і люблю Цябе. Усё, чаму Ты вучыш, ёсьць праўда. Усё, што Ты жадаеш, ёсьць добра". Гэты момант і ёсьць прыняцьцём дару веры. Але й надалей чалавек застаецца свабодным і адказвае за тое, што робіць з сваёй верай.



Сярод сучасных людзей распаўсюджаная такая думка: "Я веру ў Бога, але, каб памаліцца Яму, мне ня трэба хадзіць у царкву". А бывае і інакш, калі чалавек, будучы зьнешне вельмі набожным, часта ходзіць у царкву, але не да канца адкрывае душу перад Богам. Вось жа можна "закапаць" гэты дар веры, схаваць у далёкі закутак свайго сэрца сярод благіх думак, распуснасьці, зладзействаў і г. д. і з "спакойным сумленьнем" казаць сабе: "Я веру ў Бога, Бог ёсьць у маёй душы".

Чалавек мае свабодную волю і здольны заўсёды выбіраць паміж дабром і злом. А кожны выбар патрабуе ад чалавека пэўных высілкаў. Таму духоўная традыцыя Ўсходняй Царквы гаворыць пра "подзьвіг веры". Царква ж, як добрая і разумная Маці, цярпліва кшталтуе сумленьне вернікаў паводле Евангельля і дапамагае ім умацоўваць сваю веру.

Вера ва ўсядобрага Бога вымагае ад чалавека падзяліцца атрыманым дарам з іншымі. Каб быць жывой і праўдзівай, яна патрабуе канкрэтных учынкаў *(пар. Як 2, 14-20).* У тайнах сьвятога Хросту й Мірапамазаньня, якія ўдзяляе Царква, чалавек атрымлівае моц, каб рабіць дабро, ды ўступае ў духовы бой супраць сілаў зла. Гэтую духовую дапамогу – моц Духа Сьвятога – вернік атрымлівае ў Царкве.

Сапраўдная любоў і вера ў Бога падштурхоўваюць да паглыбленьня сувязі з Ім. Усюдыпрысутны й Міласэрны Бог заўсёды ёсьць побач з намі. Кожную хвіліну чалавечага жыцьця Госпад чакае ад нас адказу на Сваю любоў. Дзе, як і калі я магу сустрэць Бога, глыбей перажыць і ўсьвядоміць Яго прысутнасьць? Падчас малітвы і ў месцы малітвы. Галоўнае, каб зьнешнія праявы малітвы – як прыватнай, у ціхім пакойчыку, так і супольнай, у храме,– аб'ядноўваліся з малітвай унутранай. Малітва толькі тады становіцца малітвай, калі мы ня проста вычытваем тэксты, а калі ўсьведамляем сабе Таго, да Каго зьвяртаемся, і шчыра ва ўсім даваряемся Яму.

У асаблівы спосаб Ісус Хрыстос прысутны ў служэньні сьвятой Еўхарыстыі – Боскай Літургіі. Падчас яе, прымаючы пачэсныя Цела і Кроў несьмяротнага Ўладара нашага, мы выяўляем нашу супольную веру ў збаўчую ахвяру Ісуса Хрыста, Сына Божага, якую Ён прынёс дзеля нас, ды ў містычны спосаб яднаемся з нашым Госпадам, а таксама паміж сабой у адну сям'ю, у адно Цела. Сьв. Ян Залатавусны казаў: "Каб не любоўю толькі, але й на самой справе быць нам членамі Цела Хрыстовага, будзьма ж яднацца з гэтым Целам. А гэта бывае праз ежу, якую Хрыстос дараваў нам, каб паказаць Сваю вялікую любоў да нас".

У супольнасьці Царквы хрысьціянін зьдзяйсьняе сваё пакліканьне да ўзрастаньня ў веры і праз сьвятыя Тайны атрымлівае неабходную ласку. У Царкве ён пераймае навуку Хрыста, якая перададзена апосталамі і беспамылкова захоўваецца ў Царкве да сёньняшніх дзён, ды вучыцца жыць на прыкладах веры і сьвятасьці Божых падзьвіжнікаў.

**Аляксей Філіпенка**

***На фота:*** *07.01.2007, Драгічын (Польшча). Новапрасьвітары БГКЦ а. Аляксандр Шаўцоў і а. Андрэй Буйніч пасьля сваёй прыміцыйнай Літургіі блаславляюць былых калег па духоўнай семінарыі.*

## ПЫТАНЬНІ АДНОСНА ВЕРЫ

*МОЛАДЗЬ ЗАПЫТВАЕ:*

***Папа казаў, што Хрыстос быў такім самым чалавекам, як і мы, толькі застаўся бязгрэшным. Ці можна сказаць, што Ісус быў звышчалавекам?***

***Вераніка***



*ДУШПАСТЫР АДКАЗВАЕ:*

Слова "звышчалавек" мае дрэнныя асацыяцыі, бо гэтае акрэсьленьне – звышчалавек (*Ubermensch*) – выкарыстоўвалася ў ідэалогіі нацыстоўскай Нямеччыны. У імя расісцкай канцэпцыі звышчалавека падзяляліся і нават зьнішчаліся ў часе II Сусьветнай вайны людзі. Таму гэтае слова мне вельмі не падабаецца.

Мы, хрысьціяне, вызнаем, і гэта ёсьць праўдай веры адначасова і для каталікаў, і для праваслаўных, і для пратэстантаў, што Ісус Хрыстос быў праўдзівым Богам і праўдзівым чалавекам. "Слова сталася целам і пасялілася паміж намі", гаворыць сьвяты Ян у Евангельлі *(Ян 1, 14)*. А тое, што Ён быў на нас падобны, што быў сапраўды адным з нас, вельмі дакладна акрэсьліў апошні Сабор: "Сын Божы ... людзкімі рукамі працаваў, людзкімі думкамі мысьліў, людзкой дзейнічаў воляй, людзкім сэрцам кахаў, народжаны з Марыі Дзевы, стаў сапраўды адным з нас, ва ўсім на нас падобным, акрамя граху". Таму слова "звышчалавек" ёсьць памылковым і неадпаведным. Царква абвяшчае і апявае таямніцу ўцелаўленьня ў словах аднаго з гімнаў сьвятога Паўла: "Бо ў вас павінны быць тыя самыя адчуваньні, як і ў Хрысьце Ісусе; Ён, быўшы ў Боскай прыродзе, не палічыў за рабунак Сваю роўнасьць з Богам, а прынізіў Сябе Самога, узяўшы вобраз раба, зрабіўшыся падобным на людзей і з выгляду стаўшыся, як чалавек; упакорыў Сябе і быў паслухмяны аж да сьмерці, і сьмерці крыжовай" *(Пасланьне да Піліпянаў 2,5-8).*

Можна сказаць болей: Ісус, не губляючы Боскай прыроды, прыняў чалавечую прыроду, зьяўляючыся праўдзіва Богам і праўдзіва чалавекам.

***Тамаш Дастатні,*** *дамініканін*

## Вандроўка туды і назад,

***альбо мае калядныя практыкі...***



"Была ў зямлі дзірка, але ж ня проста дзірка, а нара, і жыў у ёй хобіт..." Менавіта гэтак сусьветна вядомы пісьменьнік Джон Рональд Руэл Толкін распачаў сваю кнігу "Хобіт, альбо Вандроўка туды і назад", і менавіта гэтыя словы сталі маім часовым дэвізам ды тэмай для разважаньняў падчас калядных сьвятаў, а значыцца – і калядных практыкаў у Беларусі.

Бывае так у нашым жыцьці, што нейкія словы прыйдуць і амаль адразу адыходзяць, дакранаюцца да розуму, але не кранаюць сэрца, ды й зьнікаюць з памяці, з жыцьця, як нічога ня вартыя для дадзенага канкрэтнага моманту. А бывае й так, што прыходзяць словы, якіх ня можаш адкінуць, якія ўваходзяць у тваё сэрца і напаўняюць яго нейкімі прадчуваньнямі. Яны нібы паказваюць табе больш глыбокі, сымбалічны сэнс тых словаў, што ты толькі што пачуў ці прачытаў, і знаходзяць водгук у сэрцы. Словы даюцца кожнаму свае, залежна ад моманту, ад унутранага духоўнага стану і ад тых пытаньняў, што турбуюць цябе ў дадзены момант. Вось так і да мяне – прыйшлі словы, якія я ведаў вельмі добра, але якія ніколі яшчэ, ажно да гэтага часу, не давалі мне стымулу да разважаньняў, не даходзілі так глыбока ў маё сэрца, як зараз.

Адныя памятаюць, іншыя – не, але з хобітам Більбо сытуацыя адбывалася гэтак: жыў ён сабе ў сваёй утульнай норцы, пакуль не прыйшоў сівабароды Гэндальф, які пастукаў у яго дзьверы, намаляваў на іх Знак ды адаслаў Хобіта ў Вандроўку. Ня проста ў Вандроўку, нібыта на шпацыр з сьвежым паветрам ды цудоўнымі краявідамі, але на рызыкоўную прыгоду ды на змаганьне з Цмокам. І наш Хобіт пайшоў, пайшоў каб выканаць патрэбнае і... вярнуцца.

Гісторыя гэтага Хобіта часам нагадвае жыцьцё семінарыста: табе пастукалі ў сэрца, табе намалявалі ў сэрцы Знак перамогі, цябе клічуць – і ты зьбіраешся ў дарогу ды робіш першы крок. Ты становішся на гэты шлях. Ты – семінарыст. Ты той, хто знаходзіцца ў Вандроўцы, і вельмі важна, што Вандроўка твая пачалася ня дзесьці ў абстрактным месцы, але з тваёй канкрэтнай "норкі", цёплай, утульнай норкі, з месца, дзе ты – дома: з тваёй канкрэтнай парафіі, з тваёй канкрэтнай Царквы. І менавіта гэта, як тая норка для хобіта, і ёсьць тым месцам, куды ты пакліканы вярнуцца "назад". Ты яшчэ сьпяшаешся "туды", а гэтае "назад" ужо закладзена, намалявана, выразана ў тваім сэрцы. І ты крочыш далей,

ведаючы гэта...

Вандроўка семінарыста – гэта ўвесь перыяд навукі, увесь перыяд выпрабаваньняў і нашых папярэдніх служэньняў у Царкве, гэта час практыкі і працы над сабой, гэта шлях "туды". Хто мы ў гэты перыяд? Гэта нейкі асаблівы стан? Паўсьвятары? Не. Мы – звычайныя вернікі, звычайныя хрысьціяне, толькі якія адчулі пакліканьне да асаблівага служэньня і спрабуюць ісьці за ім, быць верным яму. Да чаго мы пакліканыя ў гэты час? Як і ўсе браты ды сёстры мы пакліканыя да сьведчаньня пра Хрыста, да пашырэньня Добрай Весткі, да жыцьця ў Хрысьце і ў Ягонай Царкве. Але праз свой выбар, праз свой адказ на Заклік, мы паглыбляем свае пакліканьні і сваю адказнасьць за іх. Ісьці і здабываць патрэбныя веды ды зьбіраць духоўныя каштоўнасьці, змагацца з Цмокам у сваёй душы і вучыцца перамагаць яго.

Калі ж ты дайшоў, пераадолеў усе перашкоды, не паддаўся на спакусы, адкінуў фальшывыя мапы, якія абяцалі нешта іншае, калі ты дайшоў да фінальнага змаганьня з Цмокам і перамог яго, то раптам ужо ясна бачыш тое, што раней толькі адчуваў. Ты бачыш, што насамрэч шлях ня скончаны, што цябе чакае Вандроўка ***назад***. Ты разумееш, што ня можаш захаваць толькі і выключна для сябе ўсё тое, што атрымаў, бо дары раскрываюцца і паглыбляюцца толькі тады, калі будзеш імі дзяліцца, калі будзеш раздаваць іх іншым. Ты бачыш, што вакол цябе ёсьць шмат тых, хто чакае тваёй дапамогі, каму можа быць патрэбнае тваё слова, твой досьвед, хто чакае на тваё вяртаньне, пры чым на вяртаньне ўжо ў новай якасьці: вяртаньне не для адпачынку, але для служэньня; і менавіта тут, напрыканцы першай часткі Вандроўкі, ты, праз ускладаньне рук, атрымліваеш ласку, неабходную для гэтага.

У гэты момант сама Царква пацьвярджае тваю вернасьць заклiку й просіць Госпада памножыць твае дары, якімі ты будзеш служыць: узвысіць тваё Слова, паглыбіць твой Дух, узмацніць тваё Цела. Царква блаславўляе цябе на вяртаньне ды дае табе ўсе тыя скарбы, якімі валодае сама, каб ты нёс іх да сваіх братоў і сясьцёр, да тае супольнасьці Духа, да якой ты належаў ды належыш, як кожны хрысьціянін. І ты з радасьцю вяртаешся. Вяртаешся, каб заставацца там, з сваімі, з тымі, з кім быў пакліканы і да каго быў пакліканы. Вяртаешся ў вернасьці, вяртаешся з дарамі, вяртаешся, каб аддаць усё іншым. Урэшце вяртаешся дамоў... Туды, дзе можаш сказаць: гэта – браты мае, гэта – сёстры мае, гэта – Маці мая, гэта – маё месца...

На працягу гэтае нашае вялікае Вандроўкі даволі рэгулярна адбываюцца маленькія, але ад гэтага ня менш важныя, вандроўкі. Рэгулярныя вандроўкі на Бацькаўшчыну, і потым назад у семінарыю, ізноў ***туды*** й ***назад***. Кожныя сьвяты, кожныя вакацыі...

Нашае служэньне, нашыя ***практыкі*** – гэта ня проста прысутнасьць семінарыста ў нейкай парафіі, каб "сьвечку патрымаць" ці "Апостал прачытаць", але амаль заўсёды гэта рэальныя сустрэчы з людзьмі: рэальныя размовы й дыскусіі, знаёмства з рэальнымі патрэбамі парафіі і нашая пасільная дапамога. Семінарыст ня мае пакуль дазволу вучыць, але мае доступ да кніг ды можа заўсёды пашукаць адказ з аўтарытэтных крыніцаў. Семінарыст ня можа ўдзяляць сьв. Тайнаў, але можа дапамагаць лепш зразумець іх. Семінарыст не апякуецца парафіяй, але пры патрэбе заўсёды можа папрацаваць, дапамагчы ды арганізаваць. У гэтым ён вучыцца таму, чым будзе потым служыць ужо як сьвятар.

Гэтыя Каляды для мяне былі вельмі плённыя і поўныя перажываньняў, хоць я й ня змог трапіць у Беларусь уласна на сьвята Раства Хрыстова. Узамен я атрымаў ласку пабываць у Менску на навагодніх багаслужбах дзьвюх парафіяў – Маці Божай Нястомнай Дапамогі (на якую быў накіраваны для практыкі) і парафіі сьв. Язэпа, з якой зьвязаны сваім жыцьцёвым шляхам і прыходам да Царквы. Таксама ў Менску, на парафіяльных урачыстасьцях у гонар сьв. Язэпа, я меў ласку супольна маліцца з усімі нашымі грэка-каталіцкімі сьвятарамі і семінарыстамі, а праз іх – і з усёй нашай Царквой.

З цікавага досьведу, які я атрымаў на гэтыя Каляды, было яшчэ й тое, як я вучыўся варыць куцьцю. Дзякуй тым, хто падштурхнуў мяне да гэтага, заўважыўшы: "Як гэта так? Прасфоры пякчы ўмееш, а куцьцю рабіць – яшчэ не!" І ў гэтым была праўда, бо куцьця – таксама частка нашага літургічна-царкоўнага жыцьця, частка нашае традыцыі.

Але напэўна самай асаблівай ласкай ды радасьцю для мяне была магчымасьць удзелу ў прыміцыйнай сьв. Літургіі новапастаўленага сьвятара а. Андрэя Буйніча, чалавека, які першы мяне пазнаёміў з нашай Царквой і якога я з радасьцю магу называць сваім сябрам.

Урачыстая прыміцыйная служба – гэта якраз той бачны знак вяртаньня. Гэта момант сустрэчы таго, хто вярнуўся, з тымі, хто чакаў і спадзяваўся. І хоць для мяне ў маёй семінарыі ў Айхштэце (Нямеччына) значна цяжэй у поўні ўдзельнічаць у жыцьці нашае Царквы, але тым ня менш і я, наколькі магу, намагаюся сустракацца, назіраць, слухаць, адказваць, запісваць тэмы й пытаньні, на якія ня змог адказаць, каб потым, вяртаючыся "назад", з яшчэ большай сілай ды руплівасьцю сядаць за кнігі, шукаць адказы на пытаньні, якія турбуюць, спасьцігаць тое, чым буду служыць.

Гэткія пытаньні і размовы дадаюць мне і, думаю, кожнаму семінарысту, сілаў для далейшага шляху ды ўказваюць арыенціры на ім. І хоць часта бывае, што людзі саромяцца ці баяцца пагаварыць ці спытаць нешта, кожная такая размова і кожнае пытаньне – нібы яшчэ адна маленькая зорачка, якая таксама патрошку разганяе цемру і асьвятляе мне, ды й нам усім, шлях у нашай Вандроўцы, у нашай Вандроўцы "туды і назад", у нашай Вандроўцы дамоў...

"*Падумайце, бо ж калі зоркі запальваюць, значыцца гэта камусьці патрэбна!*"

***іпадыякан Аляксандр Аўдзяюк***



Віншуем!

***Дзьве важныя падзеі адбыліся на пачатку 2007 году ў жыцьці выпускніка духоўнай семінарыі Алеся Шыбекі, які паходзіць з Воршы.***

Шчыра віншуем яго, бо 28 студзеня ў Магілёве ён узяў шлюб з грэка - каталічкай з Украіны, а 18 лютага ў Івана - Франкоўску адбыліся яго дыяканскія сьвячаньні. У царкве Раства Хрыстова на дыякана яго высьвяціў кіруючы архірэй Івана - Франкоўскай япрахіі Ўладыка Ўладзімір Вийтышын . На сьвячаньнях прысутнічала група беларускіх семінарыстаў, якія вучацца ў Івана - Франкоўску, ды шматлікія ўкраінскія сябры і знаёмыя разам з маладой жонкай і сваякамі.



Алесь Шыбека ў лютым 2006 году скончыў навучаньне ў рыма - каталіцкай духоўнай семінарыі пры ўніверсітэце ў Аполе ( Польшча ), дзе на выдатана абараніў магістарскую працу з гісторыі Царквы на тэму " Гістарычна - тэалагічныя перадумовы Берасьцейскай Уніі 1596 году " ( навуковым кіраўнікам быў дапаможны біскуп Апольскі Ян Копец ). У сакавіку - чэрвені 2006 году праходзіў пасьлясемінарыйную практыку ў семінарыі г. Рагуза ( Італія ).

Цяпер, пасьля сьвячаньняў, Алесь Шыбека будзе праходзіць літургічную дыяканскую практыку ў Івана - Франкоўскай духоўнай семінарыі.

**На фота зьлева:** *28.01.2007, Магілёў. Алесь Шыбека і яго абраньніца падчас шлюбу*

**На фота справа:** *18.02.2007, Івана-Франкоўск. Украінскі Ўладыка Ўладзімір (Війтышын) бласлаўляе на служэньне новага беларускага грэка-каталіцкага дыякана Алеся Шыбеку.*

# Спатканьне ў Івацэвічах

Неяк я заехаў у г.Івацэвічы да сяброў з Царквы. У іх якраз праходзіла спатканьне моладзі ў рамках Катэхетычных курсаў. У мяне ўзьнікла пару пытаньняў: ці цікава маладым людзям разважаць над Словам Божым і ці дае такая сустрэча плён? Адна з удзельніц адказала мне так: "Калі б я ведала, што гэта так крута, пачала б удзельнічаць у курсах нашмат раней". А што гэта сапраўды "крута", пераканаўся і я.



Цудоўныя выклады, якія правялі а. Андрэй Крот, а. Андрэй Буйніч і спадарыня Алена Лосева, супольныя малітвы, перадусім Боская Літургія, супольны пасілак, утульны дом і ў цэнтры ўсяго – Хрыстос. Вечарам, пасьля заканчэньня дзённай праграмы, час на сябе. Мае сябры заходзілі ў капліцу, каб памаліцца на самоце. Пах ладану, ціхае сьвятло і мігценьне сьвечак, вонкавая цішыня і размова ў сэрцах... Гэта ня толькі рамантыка. Гэта – жывая Божая Царква, дзе спраглыя і стомленыя знаходзяць прытулак Гасподні.

Адказ пра плённасьць сустрэчы я атрымаў праз пару дзён і ад іншай сяброўкі: "Цяпер хочацца Біблію чытаць!"

Сяргей Раюнец

# Хараство і міласэрнасьць

***Сьведчаньне***

Мой прыход у храм, да веры ў Ісуса Хрыста, стаўся сам сабою. Як быццам ня здарылася нічога незвычайнага, як да гэтага моманту, так і пасьля яго. Адбылося тое, што мусіла адбыцца, што прадбачыў Міласэрны Госпад Бог.

Па сканчэньні сярэдняй школы я пакрысе пачаў набываць самасьвядомасьць, якая патрабавала самавызначэньня, рэалізацыі. Я шукаў сэнсу жыцьця, таго падмурку, на якім мажліва было б будаваць, не баючыся катастрофы, калі ўсё пачне руйнавацца... Неўзабаве Сам Усявышні прыйшоў да дзьвярэй майго сэрца і асьцярожна пагрукаўся, запрашаючы ў бязьмежнае падарожжа да небасхілу, і нават вышэй. Пайшоў інтэнсіўны працэс фармаваньня ўласнага сьветапогляду, духовых прынцыпаў.

Я знайшоў сябе ў Каталіцкай Царкве, якая аказалася вельмі блізкай маёй ментальнасьці, ды ў ёй я атрымаў ласку Хросту і Мірапамазаньня. Паступова я пачаў цікавіцца іншымі канфесіямі, перадусім праваслаўем і пратэстанцтвам. Але ўжо не як беспрытульны, а той, хто мае сваю родную хату. Пазнаёміўся з мясцовымі баптыстамі, евангелістамі, адвентыстамі, вельмі пасябраваў з віцебскім праваслаўным брацтвам імя праведнага Яна Кранштацкага, дзе знайшоў мноства сяброў і прыяцеляў. Актыўна ўключыўся я ў дзейнасьць мілага рыма-каталіцкага катэдральнага касьцёлу, з айцамі якога завязаліся добразычлівыя адносіны. Не абмінуў увагай віцебскія рыма-каталіцкія парафіі, дзе таксама аказалася шмат добрай і разумнай моладзі. Гэтак утварыўся цэлы сьвет, поўны Божай ласкі праз малітвы і чуваньні, канцэрты й рэкалекцыі, пілігрымкі ды сустрэчы. Жыцьцё зьмянялася.

З цягам часу з дапамогай добрых людзей я адшукаў сьцежку да віцебскай грэка-каталіцкай парафіі, якой раней ня мог знайсьці. Вось яна, побач, тутака, я знайшоў! Вера маіх дзядоў, маёй мілай Беларусі, мая традыцыя. Я гэта адчуў ды зразумеў. Голас крыві, а мо й Самога Ўсемагутнага й Міласэрнага Бога. Мне спадабалася форма Літургіі, супольнасьць – жывое цела Царквы. Не чужое, а сапраўды сваё. Цяпер я дзякую Госпаду, што паказаў мне такое хараство і міласэрнасьць!




Сёньня я разумею, што Царква сталася сапраўды калыскай, дзе я нарадзіўся праз сьв. Хрост. Яна сталася домам, сям'ёй, дзе можна адпачыць і набраць сілаў на далейшы шлях жыцьця. Госпад Ісус Хрыстос заняў пачэснае месца Ўладара і Збаўцы, Які праз Сваю сьмерць і ўваскрасеньне вядзе да вечнай хвалы, дзе безупынна чутны голас анёлаў. Часам, па слабасьці чалавечае прыроды, пра Божую прысутнасьць забываю... Аднак у цяжкія моманты выпрабаваньняў адчуваецца асаблівая блізкасьць Госпада.

Якая будзе мая будучыня – толькі Богу вядома. Для мяне ж галоўнае – ня страціць з Ім сувязі і застацца здольным успрымаць Яго волю ды кіравацца ёю. Я і надалей хачу заставацца ў супольнасьці Царквы, паглыбляць веру ды практыкаць яе на нашым родным шляху. Шляху праз выпрабаваньні і ахвяры – да нябеснай Беларусі. Дапамажы нам, Госпадзе!

**Генусь**, *парафіянін з Віцебску*

***На фота:*** *Грэка-каталіцкая капліца ў Віцебску*

## Сказалі пра Ісуса

**Махатма ГАНДЗІ**
(1869-1948), правадыр індыйскага нацыянальнага руху, індуіст:

**НАЙМАГУТНЕЙШЫ МАЙСТАР**

"Праз шмат гадоў майго жыцьця я лічыў Ісуса з Назарэту за вялікага Майстра, мабыць, наймагутнейшага з тых, якіх ведаў сьвет. (...) Магу сказаць, што Ісус займае адмысловае месца ў маім сэрцы, як настаўнік, які зрабіў вялікі ўплыў на маё жыцьцё. (...) Мяркую, Ісус – адзін з найвялікшых Настаўнікаў чалавецтва, аднак не лічу яго адзіным Сынам Божым. Ісус зьяўляецца тым, хто найбольш наблізіўся да дасканаласьці".

**Марцін БУБЕР**
(1878-1965), габрэйскі філосаф і тэолаг:

**ВАЖНЫ Ў ГІСТОРЫІ ВЕРЫ**

"Я перакананы, што Ісусу належыць ганаровае месца ў гісторыі веры Ізраіля. Ён ніколі не імкнуўся зьнішчыць Закон. Спрабаваў патлумачыць інакш, чым фарысеі, але ўвогуле лічыў сябе настаўнікам, які працягвае габрэйскую традыцыю".

**Атар Фарыдудзін МАХАМАД**
(каля 1119-1120 альбо 1229), персідзкі паэт, прадстаўнік суфізму – містычнага руху ў ісламе:

**ПАСЯБРУЙ З ІСУСАМ**

Калі толькі на хвіліну вызваліш сябе
ад той турмы вакол цябе,
будзеш тады як Ісус
непараўнальны ў непрывязанасьці

да сьвету.

Ачысьці мяне, о Госпадзе, ад маёй
забруджанай душы,
каб я мог прэтэндаваць на несьмяротную
чысьціню, як Ісус.

Як асёл ляжыш у асьляпленьні,
заглыблены ў свае зьвярыныя жаданьні,
усё бліжэй да пекла.
Сьпяшайся, каб узьнесьціся на неба,
так як Ісус!
Пакінь спрэчкі Антыхрысту
і пасябруй з Ісусам.